# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 4 (188) (красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online


## Змест





# Дыханне Халоднага Яра



Сяргей ЗАКОННІКАЎ



Фота tht.com.ua

### Кроў каліны

***Абаронцам Марыупаля***

*«Ой у лузі червона калина…»*

*Ёсць песня, якая душу падвышае,*
*Прыносіць адразу святло і цяпло,*
*Такія пачуцці знянацку зрушае,*
*Якіх, можа нават, раней не было…*

*Яна батальён вырывае з адчаю,*
*Наперад адважна вядзе за сабой.*
*А потым каліна крыві пазычае*
*Параненым хлопцам, што скончылі бой…*

*Народ не зламаць і не знішчыць ніколі,*
*Калі ён абраў незалежнасці шлях,*
*Калі яго песня выказвае долю*
*І вольна над краем лунае, як сцяг.*

### Дыханне Халоднага Яра

***Уладзіміру Зяленскаму***

*«І повіе огонь новий*
*З Холодного Яру».*

***Тарас Шаўчэнка***

*Свабодай дыхнула з Халоднага Яра,*
*Каб лёг горды дух на крыло.*
*Настрой гайдамацкі душой уладарыць,*
*Як гэта спрадвеку было.*

*Ні беды, ні здрады народ не скасілі,*
*Хоць доўга Айчыну гнялі.*
*На бой узнімаецца грозная сіла*
*З глыбінь непаўторнай зямлі.*

*Паўсюль ажываюць легенды, быліны,*
*Што спалі за дальняй гарой.*
*Парывам адзіным уся Украіна*
*Без страху становіцца ў строй.*

*Краіне нязломнай, што гневам наліта,*
*Дзе помняць адважны свой род,*
*Не трэба ніякай адборнай эліты…*
*Героем стаў цэлы народ!*

*Было так і будзе. Навечна, заўсёды…*
*З Халоднага Яра дыхнула свабодай!*

### Закрытае неба

*«Я хлеба ў багатых прасіў і маліў…»*

***Максім Багдановіч***

*Нясуць груз вайны украінцы адны…*
*Нібыта надзённую лусту хлеба,*
*Без выніку просяць і моляць яны:*
*«Краіне трэба закрытае неба!»*

*Зялёнае полымя новай травы*
*Трапеча паміж быццём і нябытам…*
*Закрытага неба няма для жывых,*
*Яно застыла ў вачах забітых.*

### Такая вясна

*Зноў вясна палоніць Украіну…*
*Толькі як заўважыць пекнасць дзён?*
*Квецень не схавае жах руінаў,*
*Водар не разбудзіць мёртвых сон.*

*Светлая пара не вінавата,*
*Што запырскала пялёсткі кроў,*
*Што гвалтуюць і знішчаюць ка́ты*
*Самых блізкіх, любых і сяброў.*

*Ды з людзьмі ў атаку на навалу*
*Апантана рушылі сады,*
*Каб красой, што скрозь запанавала,*
*Сцерці смерці чорныя сляды…*

*З папялішчаў край святы ўваскрэсне,*
*Загучаць у радасным быцці*
*З новай сілай украінцаў песні,*
*Каб садам вальней было цвісці!*

### Нацыя герояў

*Зацяганае, чутае з маленства кожным,*
*Слова ў падручніках і на дошках жыве.*
*Ужываць яго варта радзей і асцярожна,*
*Але покуль мір — гэта ўсім не ў галаве.*

*Слова «патрыёт» пішуць крывёй, а не мелам,*
*Проста раптам прыходзіць такая пара…*
*Украінцы — нацыя!*
*Яны разумеюць,*
*Як на Зямлі трэба жыць і як паміраць.*

### Чым памагчы?

*Праз жыццё я люблю непаўторны край,*
*Быў з сябрамі ў смутку і ў радасці разам…*
*І цяпер, як кагосьці ні дакарай,*
*Украіна ад нас чакае адказу.*

*Зноў нямогла таўкуся ў тлуме трывог,*
*А душа — як адна суцэльная рана…*
*Для суседзяў зрабіў столькі, колькі змог,*
*Ды ўсё роўна так моташна і пагана.*

### Расія

*Вялізных памераў імперыя*
*У прорве нянавісці тоне.*
*Трапеча крывавымі пер’ямі*
*Арол двухгаловы ў кароне.*

*Глюгастая птушка стараецца*
*Падгрэбці чужое найболей,*
*Таму наваколле штораніцы*
*Растурзана крыкамі болю.*

*Ды з кіпцяў, што свет абшчаперылі,*
*Народы імкнуцца на волю…*
*Пачварных памераў імперыя*
*Памрэ, каб не ўстаць больш ніколі.*

### Расчалавечванне

*«Человеку — конец.*
*Человечности — тоже хана.*
*Кроме миски баланды,*
*не будет уже ни хрена…»*

***Юлій Даніэль***

*Няўцям Расіі, што гіне ў бядзе,*
*Што нараджае духоўных калекаў.*
*Мне жудасна бачыць, як ідзе*
*Расчалавечванне чалавека.*

*Забойцаў не страшыць дурны сыход,*
*Чакаць пакаяння ад іх — марна…*
*Маральна дэградаваны народ —*
*Гэта ўжо тэрарыст планетарны.*

### Расстрэл прарока ў Барадзянцы

*Сябе «рускі свет» падаў «зухавата»,*
*Паўсюль ясна ўбачылі, добра пачулі.*
*Стралялі ва ўпор па помніку каты,*
*Таму ў лоб і ў скроню патрапілі кулі.*

*У розных краях — выявы паэта,*
*Туды дацягнуцца падонкі не могуць.*
*Яны шалеюць, а людзям планеты*
*Агідна глядзець на здзічэлых нябогаў…*

*Стаіць трывала Чарнечая круча*
*У сэрцы нязломнай, свабоднай Айчыны…*
*Тарас Шаўчэнка — прарок неўміручы,*
*Яго і народ — расстраляць немагчыма.*

### Марадзёры

*Марадзёры аднолькавыя ў кожным часе —*
*Ці Чарнобыльская бяда, ці вайна.*
*Індывід без сумлення, як смута ўсчалася,*
*У мярзоце тоне да самага дна.*

*Я падобнае ў зоне адселенай бачыў,*
*Быў у рэйдах нудных, начных два разы.*
*З сіратлівых дамоў крала племя лайдачых*
*Тэлевізары, футра, віно, абразы…*

*Свет утульны, што зладзіў народ Украіны,*
*Разбурае хіжых рашыстаў арда.*
*Цягнуць рэчы, што ў спеху выгнанец пакінуў,*
*Каб на ўсход адаслаць ці недзе прадаць.*

*Б’юць пад дых і з Палесся тутэйшага сцэны,*
*Бо знайшліся праныры паміж радні.*
*Замбаваных дэбілаў, што любяць бясцэнак,*
*Радыяцыяй нават нельга спыніць…*

*Ды міне час, і пошасць праклятая згіне,*
*На мяжы мы засцелем вольны абрус,*
*Каб сказаць па-сяброўску: «Слава Украіне!»,*
*А ў адказ прагучыць: «Жыве Беларусь!»*

*Не купляецца, не прадаецца бяссмерце.*
*Ёсць народы, ёсць праўда — на тым стаю…*
*Ад усіх марадзёраў у стомленым сэрцы*
*Я схаваў Айчыну і мову сваю.*

### Маці і сыны

*Знячэўку дрыжыкі бягуць па спіне*
*Ад запісаных гутарак тэлефонных…*
*Маці прадаюць сваіх сыноў вайне*
*За подлых трыццаць срэбранікаў казённых.*

*Народ на му́ку мелюць жорны вайны,*
*Але няма людзей разумных стрымаць іх…*
*Перш, чым сказаць:*
*«Што ж вы робіце, сыны?»,*
*Я ўсклікну: «О Божа, няўжо гэта — маці?!»*

### Кароткая памяць

*Планета наша абжыта даўно,*
*Кожны можа да праўды прабіцца.*
*Але яе жыхары ўсё адно*
*Не хочуць на памылках вучыцца.*

*Прарабы і муляры новай бяды*
*Не толькі свае архівы паляць.*
*Спрадвеку насельніцтва і гарады*
*Знішчае ўраз кароткая памяць.*

*Куды бяспамяцтва свет завядзе?*
*Касмічны холад сціскае грудзі…*
*Калі на Зямлі не стане людзей,*
*Тады і памяці больш не будзе.*

***28 лютага — 12 красавіка 2022 года***

# Васіль Быкаў: «Я лічу нацыяналізм выратавальнай ідэалогіяй»

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз пра хрысціянства як маральнае апірышча, «кананізацыю» ваеннай тэмы, нацыянальную ідэю і масавую свядомасць, нацыяналізм «вялікіх» і «малых» народаў.**



Фота з архіва аўтара

***— Грамадства мае сталую патрэбу маральнага апірышча, не зважаючы на сацыяльныя, гістарычныя катаклізмы. Маральная раўнавага ці то асобнаму чалавеку, ці то людской супольнасці патрэбна ў любых палітычных варунках. Як думаеце, ці здольна стаць такім апірышчам для нашага грамадства хрысціянства?***

— Хрысціянства, безумоўна, магутная сіла. Але ў дачыненні да сучаснага моманту, я баюся, атэістычны перыяд нашай гісторыі падзейнічаў самым разбуральным чынам. За той час, калі грамадства жыло ў атэістычнай атмасферы, яно выпрацавала ў сабе ўнутраную здольнасць існаваць без хрысціянства, абыходзіцца атэізмам. Гэта вялікае няшчасце... Сёння, я баюся, наўрад ці магчыма такое становішча, пры якім рэлігія зноў заняла б у нашым грамадстве тое месца, якое яна займала да 1917 года.

Мы, аднак, бачым, што заходняе грамадства, якое ніколі не было атэістычным, у якім хрысціянская рэлігія існавала ў нармальных умовах, сёння не надта каб захаплялася хрысціянствам. Яго там прызнаюць, шануюць, але, тым не менш, ахаладжэнне да хрысціянства назіраецца ва ўсім цывілізаваным свеце.

***— Зусім нядаўна мы меркавалі, што дастаткова будзе асэнсаваць сталінізм — і больш не застанецца «белых плям» у нашай гісторыі (дакладней — у нашым яе разуменні). Аднак жа, «развянчаўшы» сталінізм, грамадская думка пайшла далей раскопваць «кар'ер» нашай мінуўшчыны... Усё часцей нанова ўздымаецца тэма Вялікай Айчыннай вайны. Разуменне гэтай вайны, бадай, найдаўжэй заставалася дастаткова адназначным. Цяпер жа гучаць выказванні, што не ўсё так адназначна «гераічна» ў гісторыі партызанскага руху, у дзейнасці мясцовай адміністрацыі з ліку нацыянальна свядомых дзеячаў і інш. Ці можна прагназаваць далейшае развіццё «тэмы вайны» да радыкальнай, ці не палярнай змены ацэнак?***

— Мабыць, сапраўды не ўсё так адназначна. Асабліва што датычыць вайны. Найперш маральны яе бок, у параўнанні з новай вайной, афганскай. Ужо на першы погляд кідаюцца ў вочы дзівосныя аналогіі і антытэзы, дыялектычная зменлівасць ці адноснасць, здавалася б, абсалютна безадносных ісцін. Тое, што мы прызвычаіліся лічыць злом, рабілася дабром, і наадварот. Звыклыя для нас партызаны, ніколькі не губляючы сваё традыцыйнае існасці, у чужой краіне ператвараліся ў загадкавых душманаў, а ненавісныя, да зубоў узброеныя карнікі — у «наших славных парней, честно исполняющих свой интернациональный долг». У гэтым сэнсе, мабыць, было б цікава сутыкнуць разам якога-небудзь старога бацьку, беларускага партызана, і яго маладога сына-«афганца» — цікавая, мабыць, атрымалася б размова...

Зразумела, што ў мінулай вялікай вайне засталося шмат «белых плямаў», якія тояць розныя ацэнкі. Але ва ўмовах таталітарызму высветліць усе іх не было магчымасці. І не толькі з прычыны жорсткай цэнзуры і празмерна абачлівай рэдактуры: таксама і ў сілу абмежаванасці нашага светапогляду. Менавіта той светапогляд абавязваў да пэўнай «кананізацыі» тэмы, пераступіць цераз якую не было дадзена нашым пакаленням. Пэўна, тое зробяць мастакі наступнага веку. Дай ім Бог таго, што не было дадзена нам.

***— Гісторыя паказвае, што ад пачатку (з часоў Рагнеды) продкі беларусаў былі асуджаны на выпрабаванні; можна сказаць, у тым наш кон. І сёння, напрыканцы тысячагоддзя, здаецца, што наш народ ужо нічым нельга перамагчы — пасля тае, спрэс крывавае гісторыі, пасля апошняе вайны, пасля Чарнобыля... Народ жыве. Традыцыйна лічыцца, што самы трывалы імунітэт на выжыванне — у яўрэйскага народа. Але па сутнасці беларусы ёсць тая нацыя, якая, жывучы на сваёй зямлі ў якасці пакутнікаў, знайшла сабе апірышча не на грунце і не ў вандраваннях-перасоўваннях, а — ва ўнутранай беларушчыне. Мы здолелі захаваць беларускасць «саму па сабе». Усё часцей пайтараецца думка, што беларусы паступова ператвараюцца ў звышнацыю, якая можа пераўзысці астатнія па трываласці...***

— Не сумняваючыся ў вашым сцвярджэнні, я, тым не менш, не адчуваю вялікай упэўненасці. Верагоднасць выжывання беларускай нацыі ў сучасных умовах вельмі праблематычная. З'явіўся некаторы шанец, але ўсё яшчэ даволі хліпкі: д'ябальскі баланс дабра і зла захоўваецца. Дэкларавалі суверэнітэт, але абваліўся згубны эканамічны крызіс, з'явілася легітымнасць дзяржаўнай улады — ды здарыўся Чарнобыль... Відавочна, што ўсе праблемы — і эканамічная, і культурная, і моўная — упіраюцца ў самую галоўную праблему — дзяржаўны суверэнітэт. БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСЬ — БУДЗЕ ЎСЁ. У ТЫМ ЛІКУ МОВА І КУЛЬТУРА. НЕ БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ — ХУТКА НЕ БУДЗЕ НІЧОГА. Гісторыя, здаецца, ужо даволі нас у тым пераканала...

***— Незалежнасць краіны ўсталёўваецца ўласнай, незалежнай палітыкай. Для Беларусі гэтае паняцце пакуль жа больш фантом, чым рэальны чыннік...***

— Тое, што ў нас няма ўласнай палітыкі,— самая прыкрая рэч. Тут мы вяртаемся да думкі, што нацыянальная ідэя павінна апярэджваць масавую свядомасць. Масавая свядомасць і ідэі, за якія варта змагацца,— не адно і тое ж. Масавая свядомасць заўсёды адстае ад іх, і яе мусіць актывізаваць менавіта нацыянальна-дэмакратычны рух.

***— Але хвалюе надыходзячая змена пакаленняў у адраджэнскім руху. На змену сённяшнім ідэолагам і палітыкам Адраджэння, здаецца (хацелася б памыліцца), няма каму прыйсці, бо генерацыя 60-70-х гадоў у значнай ступені пазбаўлена нацыянальнай свядомасці і з-за таго — адраджэнскай матывацыі грамадскіх паводзін. Прыход новага пакалення можа адыграць фатальную ролю ў далейшым развіцці нацыянальнага руху...***

— Правільна.

***— І таму, мне здаецца, каб нечага дамагчыся ў пасоўванні нацыянальнай ідэі, непазбежны перагіб у сэнсе беларускага «нацыяналізму». Што, натуральна, выкліча і выклікае закіды з боку тутэйшых «касмапалітычных» дэмакратаў — наконт прававой дыскрымінацыі іншых народнасцяў, што жывуць у рэспубліцы.***

— Гэта, відаць, непазбежна, таму што кожны аслаблены рух часта звяртаецца да такога радыкалізму, які быў бы непатрэбны, калі б сам рух меў значную сілу. У гэтай сувязі можна яшчэ пачуць сумненні наконт сумяшчэння нацыяналізму і дэмакратыі.

Трэба праясніць гэтыя два тэрміны, бо бывае розны нацыяналізм, гэтаксама як розная бывае і дэмакратыя. Я разумею гэтую рознасць у меры таго і другога. Нацыяналізм вялікай нацыі непазбежна перараджаецца ў шавінізм і імперыялізм, а нацыяналізм малой нацыі, якім бы ён ні быў, накіраваны перш за ўсё на выжыванне сваёй нацыі сярод іншых.

Калі паглядзець на гісторыю Еўропы, дык мы ўбачым, што ў пэўных гістарычных варунках «нармальны» нацыяналізм выдатна спалучаецца з дэмакратыяй. Дзяржаўнасць краін Заходняе Еўропы так ці інакш заснавана на нацыянальнай ідэі, апроч хіба што Швейцарыі. Астатнія дзяржавы арганізаваліся паводле этнічнага раскладу, і іхні нацыяналізм ажыццяўляецца ў разумнай меры, не пасягаючы на інтарэсы іншых нацый. Чаму Беларусь, з'яўляючыся еўрапейскай дзяржавай, не можа пабудаваць свой лад?

Што датычыць Беларусі, дык тут да «нацыяналістычнай празмернасці» яшчэ вельмі далёка... Беларусь усё-такі ідзе за іншымі нацыямі, перш за ўсё — за прыбалтамі. Гэты «хвасцізм», натуральна, выклікае шмат нараканняў, незадаволенасці з боку радыкалаў, але ён жа дае і пэўныя перавагі, бо засцерагае ад памылак: асноўную рызыку бяруць на сябе першапраходцы, а мы карыстаемся іх вопытам.

Зрэшты, у нас не такая актыўная і апазіцыя нацыянальнаму руху, як у Прыбалтыцы. Там, як вы помніце, вялася лютая барацьба, антынацыянальныя сілы выступалі вельмі жорстка — калі рэспублікі Балтыі яшчэ ўваходзілі ў склад Савецкага Саюза. Але гэтая барацьба з цягам часу зменшылася, суціхла. Думаецца, што гэтак жа сітуацыя будзе развівацца і ў нас (тым больш, што беларусы складаюць каля 78% насельніцтва рэспублікі, у той час як у Прыбалтыцы карэннага насельніцтва значна меней, каля паловы ад агульнай колькасці жыхароў рэспублік).

Калі Беларусь і надалей будзе існаваць ва ўмовах абсалютнай суверэннасці і ў яе справы не будзе ўмешвацца імперская палітыка Расіі,— працэс дзяржаўнага будаўніцтва ў нас будзе праходзіць, так бы мовіць, у залагоджаным выглядзе.

***— Але ці не перашкодзіць нам наша собская, «унутраная апазіцыя» ўласным жа памкненням да волі і незалежнасці? За часы таталітарызму нацыя адхінулася не толькі ад рэлігіі, але ў значнай ступені (ці не больш) і ад нацыянальнай ідэі...***

— Таму я і лічу нацыяналізм выратавальнай ідэалогіяй на сучасным этапе беларускай гісторыі.

Што датычыць культуры, дык яе нацыянальны пласт вельмі тонкі, ён не так багата быў напрацаваны ў мінулым, а за часы дэнацыяналізацыі зменшыўся яшчэ больш. Ва ўмовах суверэннасці, відавочна, напрацоўка культуры будзе ісці вельмі актыўна, таму што беларусы як этнас далёка не рэалізаваліся. Галоўнае — каб нам не перашкаджалі, бо культура не можа прадуктыўна развівацца, калі льецца кроў і навокал галеча.

Аднак жа першасная роля ў Адраджэнні належыць палітычным пераўтварэнням, перш за ўсё праз іх «нацыяналізм» пасунецца далей, у эканамічную і культурную прастору.

***— Кажучы пра выратавальнасць незалежніцкага нацыяналізму і радыкалізму, мы неяк абыходзім пытанне выдаткаў, платы за свабоду. Вы, Васіль Уладзіміравіч, адзін з нямногіх нацыянальных лідэраў, хто не баіцца прадказваць грамадству цяжкія выпрабаванні на шляху да незалежнасці. Няўжо пакутлівыя выдаткі настолькі непазбежныя?***

— Усё значнае патрабуе платы, у тым ліку і незалежнасць. Вы не задумваліся, што незалежнасць Беларусі фактычна падаравалі? Гэта танная незалежнасць...

Мы ведаем з гісторыі, што многія народы за сваю незалежнасць пралілі мора крыві. У нас жа гэта адбылося без асаблівых высілкаў і вялікіх дэбатаў (маю на ўвазе прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце). Відаць, незалежнасць патрабуе другой цаны, другой платы. Напэўна, і эканамічных выпрабаванняў — самых жорсткіх... Такі стан рэчаў не залежыць ад чыйёйсьці злой волі альбо недагляду: тут дзейнічаюць гістарычныя прычыны. Будзе яшчэ шмат тупікоў і пастак... Калі нацыя мае волю да незалежнасці, яна з іх выбераца; калі ж на пачатку дарогі карціць вярнуцца назад, — тады, можа, і не варта было на гэты шлях ступаць...

***

*P.S. На развітанне я запытаўся ў Васіля Уладзіміравіча пра ўзаемаадносіны Творцы і Улады і магчымасць іх прымірэння. У адказ мастак працытаваў горкаўскага героя Саціна: «Человек ценен своим сопротивлением силе жизни» і дадаў, што высока цэніць жыццёвую і творчую пазіцыі французскіх пісьменнікаў-экзістэнцыялістаў Ж.-П. Сартра і А. Камю. «Відаць, творца асуджаны на сталае супрацьстаянне з уладай. Для сумленнага мастака гэта, мабыць, непазбежна...».*

*І мне, прагнучаму вычарпальнай яснасці ў сваім часе і ў сучасніках, стала зразумелым, што апантаная палітычная творчасць — часавы кон мастака, творчая ахвяра дзеля «разводу» палітыкі і літаратуры, вызвалення Таленту з-пад апякунства Уладай...*

***1992***



Алесь ЖУК

# Ёсць такія свя́ты

## Дзённікавыя згадкі

**У сёлетнім красавіку адзначае 75-годдзе вядомы беларускі пісьменнік, майстар прачулай і лірычнай прозы, галоўны рэдактар колішніх «Літаратуры і Мастацтва» і «Нёмана» Алесь ЖУК. Шчыра жадаем яму многіх сонечных вёснаў і снежных зімаў!**

Перад Новы годам змыла зіму разам з усім яе снегам. І хрышчэнскіх маразоў няма, хаця ветрана, холадна. Толькі зранку закаламуцілася неба і пасля абеду вецер паспрабаваў закруціць мяцеліцу. Шкода толькі, што не надоўга, з малым снегам. Але і на ноч застаўся вецер, насупленае неба без ніводнай зорачкі.

Учора заходзіў у «Нёман» да Левановіча. Прымусіў упісаць у пачатак рэцэнзіі, хто такі Стральцоў, што абсалютна не патрэбна, ды і гэтак званая мая кароткая рэцэнзія на «Ядлоўцавы куст» больш падобна на разгорнутую анатацыю ці на добрае чытацкае слова, чым на рэцэнзію.

Там жа ў змрочнай баковачцы між сталоў сядзеў Макаёнак плячыма да акна, а збоч у адпрасаваным касцюме, гладка прычэсаны, фізічна здаровы паэт Браніслаў Спрынчан.

Няёмка, калі пры табе самім цябе пачынаюць хваліць, нават адзін на адзін, а не прылюдна. Макаёнак, мабыць, гэта зразумеў, калі я перавёў гаворку з маіх надрукаваных у «Нёмне» апавяданняў на Шамякіна, сказаў, што «Атланды і карыятыды» падпісаны ў набор, бо ведаў, што Макаёнак першым чытаў рукапіс. Тады і ён перавёў гаворку на сваіх, спытаўся, што плануюць на бліжэйшыя нумары. І Левановіч, і Спрынчан замітусіліся, пачалі паказваць планы, шматслоўна тлумачыць тое, што Макаёнак і не збіраўся запамінаць, махнуў рукою, пажартаваў: «Пакіравау — і даволі!». На развітанне падаў руку ўсім. Супрацоўнікі пракаментавалі, што рэдактар хацеў паказацца, як кіруе. Я гэтага не адчуў. А яны самі паказаліся, знoў пачалі хваліць мае апавяданні, і трэба было альбо ісці па бутэльку, альбо адвітвацца.

Тэмпература каля нуля. Туман, удзень капае з дахаў. Атрымалася гнілая зіма, гнілое надвор'е. Снегу мала нават у лесе. Вавёрачка весела бегае з галінкі на галінку, з сасонкі на сасонку, быццам нябачнаю нітачкаю аблытвае дрэвы. На верандзе забітага на зіму дзіцячага чыгуначнага вакзальчыка свежага зялёнага колеру двое лыжнікаў націраюць маззю лыжы, вясёлыя і стройныя, ён і яна.

Учора быў у Вячаслава Адамчыка, нават крыху паназаляў яму: на стале ў яго многа ляжыць на чытку. Угаворвае пісаць нешта большае, чым апавяданні. Мне дзіўна было, калі сказаў: «Ніколі не лічыў самамэтай пісаць апавяданні. На іх вучышся, каб пісаць нешта большае». Дарэмна вінавацілі Міхася Стральцова, што з-за яго я «засеў» на апавяданнях. А мне выпісваць усе атрыбуты рамана на сённяшні дзень сумна і нецікава, у рамане не абыйдзешся без абавязковых «радоў», ну аповесць, дык гэта вялікае апавяданне. Вячаслаў Уладзіміравіч прызнаўся, што раман пісаць пачаў даўно, нават адзін варыянт напісаў і выкінуў. Лічыць сваім абавязкам захаваць людзям тое, што ведае пра свой народ. Яшчэ гаварыў пра тое, што сябе трэба прымушаць, падганяць, трымаць у рамках. Пра нешта падобнае здагадваюся і сам, хаця пішу таму, што проста хочацца пісаць. Сказаў, што будзе пісаць раман на далей, будзе, атрымліваецца ён ці не...

Харошыя, соненыя і такія, як каханне немаладой жанчыны, добрыя верасnёўскія дні, такі моцны пах апалага лісту, які стаў прывычным, што толькі зараз, пішучы гэтыя радкі, спахапіўся, што ўжо палова месяца, што вось-вось пачнецца толькі шэрань ды дождж.

Як усё мяняецца ў жыцці, і адносна даволі хутка. Цяпер ужо немагчыма так, як зусім нядаўна: Лынькоў у «Векапомных днях» Казлову даў прозвішча Саколіч як вялікаму партызанскаму кіраўніку. І тады нават крытыкі літаратуры называлі ў сваіх работах літаратурнага героя жывым Васілём Іванавічам, а не Саколічам. Праўда, сам Міхась Ціханавіч называў сваё пісанне «апупеяй». Што ад яе застанецца ў будучым? Дзед Аўсей і Палашка, ці яшчэ што-небудзь?

Вярнуўся з нарады маладых пісьменнікаў з Масквы. Сама нарада мяне мала цікавіла, мая кніга ў перакладзе на рускую мову выйдзе ўжо ў наступным годзе, але пабыць там было цікава, пазнаёміўся з многімі цікавымі хлопцамі і з Расіі, і з іншых рэспублік. Слава Богу, камсамольцы не ўстроілі маладым пісьменнікам казарменнага рэжыму, хто лічыў патрэбным, той хадзіў на семінары, каго на любоўныя прыгоды цягнула з выпадку вясны, той большую ўвагу ўдзяляў гэтаму. Жылі ў чыстай акуратнай гасцініцы побач з Навадзявочым манастыром, па два чалавекі ў нумары, так што можна было ў сяброўскіх гаворках за чаркаю прабавіць і ўсю ноч, што і галоўнае на ўсіх такіх нарадах.

А тым болей, што я быў не проста ўдзельнікам нарады, але і кіраўніком беларускай групы. Якраз на гэтыя дні па часе ў Літве праходзілі Дні беларускай літаратуры. І старэйшыя нашы пісьменнікі, і сакратары Саюза пісьменнікаўірванулі туды, дзе гасцінная і скварка, і чарка. Скончылася ўсё тым, што сакратары ЦК ЛКСМБ кіраўніцтва беларускай групай даручылі мне.

Кіраваць я там нічога не кіраваў, але часу вольнага меў, каб выхадзіць усе Навадзявочыя могілкі, пабачыць магілы тых вялікіх, хто там пахаваны, і якія хацеў пабачыць, пабыць і ў рэдакцыях, і ў ЦДЛе (Цэнтральным Доме літаратараў. — **Рэд.**) пасядзець.

Для многіх маладых пісьменнікаў, якія з'ехаліся з усяго Савецкага Саюза, нарада была не проста нагода пабачыць Маскву, але і атрымаць падтрымку ў друкаванні сваіх твораў у маскоўскіх часопісах, у выданні ў Маскве кніг — нарада мела паўнамоцтвы найбольш здольных рэкамендаваць і да друку, і да выдання кніг. Таму са сваімі маладымі пісьменнікамі прыехалі і Кайсын Кулиеў, і Давід Кугульцінаў, і іншыя вядомыя нацыяналы, вадзілі хлопцаў і па рэдакцыях, і па выдавецтвах, знаёміліз рэдактарамі і выдаўцамі за рэстаранными цэдэлаўскімі сталамі, што давала на многа большыя шансы, чым рэкамендацыі ад імя нарады.

На нарадзе здараліся і анекдатычныя выпадкі пры ўсёй яе разрэкламаванай сур'ёзнасці.

Па нашай з Далідовічам творчасці на семінарах павінен быў выступаць выкладчык Літаратурнага інстытута, крытык, зямляк, які заўсёды з'яўляўся на гарызонце, калі прыязджалі беларусы, Аляксандр Мікітавіч Уласенка. Ён, вядома ж, прымаў і актыўны ўдзел у семінары. Кнігі нашы ён прачытаў, відаць, але даклад мудра рабіў, абапіраючыся на адно апавяданне. Ці то ён запіскі пабытаў, ці на памяць паспадзяваўся, але на семінары ў Далідовіча ён разбіраў маё апавяданне, на семінары ў мяне — яго. Ніхто гэтага, акрамя нас з Далідовічам, не заўважыў, але, як было заведзена не намі, дакладчыка трэба было частаваць. Заказалі мы з Генрыхам столік у рэстаране «Сафія», на чатырох, бо настаўнік захацеў пазнаёміць нас са сваім вучнем Барысам Лявонавым, які ў яго быў аспірантам і рыхтаваўся абараняць кандыдацкую.

Усё было ў звыкла маскоўсім стылі і так бы і прайшло, калі б падпіўшыя вучань і настаўнік не пачалі каціць бочкі на Быкава, ды яшчэ і ў стылі абразчыкаў «генеральска-ветэранскай» аглаблёвай крытыкі. Я спрабаваў аспрэчваць апанентаў, што не мела поспеху, тады Генрых Вацлававіч нечакана нават і для мяне прапанаваў кардынальны варыянт: паказаў нашым гасцям на дарогу ад стала да дзвярэй. Вось тут была мёртвая хвіліна: Уласенка абмацваў рукою ля крэсла свой абшарпаны аб'ёмны чорны партфель, з якім не разлучаўся, Лявонаў наліваўся чырваннью, але праз хвіліну яны шыбанулі да дзвярэй пад здзіўленыя позіркі афіцыянтак.

Апошні дзень месяца. Дажджліва, ветрана і цёпла, нават «коцікі» на вербах выгортваюцца пад гэтаю вільгаццю, хаця пасля ночы яшчэ заставаўся мокры, сінявата-вадзяністы снег. У дзіцячым садзіку на шпакоўні на дрэве як ні ў чым не бывала святкаваў шпак, песню якога ў горадзе можна пачуць толькі прыслухаўшыся. Выжыў усё-такі, адолеў некалькі дзён з мяцеліцаю і — самае горшае — з марозам.

Пайшоў на збыт дзень, яшчэ незаўважна. Пачынае зацвітаць ліпа і цыкорыя. Лісце шуміць тугавата пад ветрам, ночы бываюць прахалодныя, думаеш, што няўтульна было б, каб заначаваў дзе ў лесе.

У горадзе раптам з'явілася многа прыгожых жанчын, можа таму, што зыходна пачало свяціць сонца.

— Калі не працую і прамінае дзень, адчуваю сябе такім падляцом... Вы то, хлопцы, можа, гэтага і не адчуваеце?

Гэта гаварыў Іван Антонавіч Брыль. Адчуваць гэта, як ён, можа, і не адчуваем, але нейкае прадчуванне ёсць.

За ўсёю яго гаворкаю і пра непатрэбныя групоўкі, і пра вайну за пісьменніцкія пасады, і пра графаманства — яго вышэйшасць, бачыць ён шырока і аб'ёмна. Ёсць прыкрасць, што людзі разменьваюць марна тое дарагое, што яшчэ маюць, — час, забываюць пра кароткасць жыцця.

Як гаварыла мая бабуля ў свае 76, што быццам яшчэ і не жыла, толькі ўсё збіралася жыць, а жыць і часу амаль не засталося.

Чытаю рукапіс новае кнігі Брыля з «Ніжнімі Байдунамі», «Гуртавым». Паспрабуй перакладчыкі на рэдактарства, чытаючы гэтыя «Байдуны». Проста маеш асалоду пасля цэлых рукапісаў суцэльнае апісальнасці. Добра, што ёсць такія свя́ты, ёсць мастацкая літаратура, якая ў любы час будзе прынята чалавекам як суладная і добрая шчырая душа-спадарожніца.

Радасна і за самога пісьменніка, што яму пры жыцці дастаўся хоць акрайчык і славы, і прызнання. Да многіх слава прыходзіла ўжо тады, як холадна, няўтульна канчаўся дзень жыцця.

Жорсткае, пачарнелае, паедзенае вусеню лісце шуміць на таполі пад ветрам так, што здаецца — дождж па шыбах.

Канец верасня, а стаіць цеплыня да трыццаці градусаў, людзі купаюцца.

Адну белую месячную верасnёвую ноч над пустымі палямі пабачыў нядаўна ў вёсцы. Велічная высокая месяцавая журба, у якой не варухнецца нават і ліст на дрэве.

Такою вечнасцю і жаданнем жыцця дыхнула ад гэтае цішыні і велічы, ад палявога спакою, што і сёння яшчэ пры ўспаміне шчыміць сэрца.

Назаўтра са стрэльбаю хадзіў па пустых палях, па слабенькай, толькі прараслай руні, на лужках страляў па качках.

А пасля абеду пад жоўтым асеннім сонцам ішоў да аўтобуса, потым ехаў да горада ў цеснаце, п'янаватай, бесталковай гаварыльні.

Пахаванне за пахаваннем. Дзесьці ў мінулым годзе пісаў па нечыім заказе слоўца пра Міхася Лынькова, а сёння адстаяў ля труны. Усё робіцца нeяк паспешна, і над труною гаварылі чамусьці па-руску.

Пражыў амаль тры тыдні з цудоўным спакоем, з чытаннем і невялікім пісаннем, з любоўю да сына і яго бесклапотным і светлым пряныццем гэтай любові. Калі чалавек шчаслівы, ён тады не ведае, што ёсць шчасце, пра яго ён даведваецца, калі шчасця не стане, пачынае шукаць яго і рэдка калі знаходзіць.

Яшчэ раз чытаў «Млечны шлях» Кузьмы Чорнага. І думаў, што ні кароткія сказы, ні гэтыя частыя «было» — нішто не перашкода той сапраўднай мастацкай праўдзе, калі напісана спагадна і збалела душою. Адна з абавязковых і галоўнейшых адзнак сапраўднага мастацтва.

Цэнзура здымае з кнігі ў Пімена Панчанкі верш пра родную мову, знікла калыханка па-беларуску не толькі на тэлебачанні, але і па радаё. Збоку здзіўлена слухаюць, калі гавару з сынам па-беларуску. Няўжо дастаткова людзям толькі таго, што хапае, каб паесці і шмотку модную на сябе нацягнуць? А якім жа і як будзе мой сын без гэтае вечнае «журбы ў палях», без святыні ў душы?

На секцыі прозы, пачынаючы ад Міколы Лобана, узводзілі мяне ў ранг «маладога таленавітага». Толькі ад усяго гэтага хвалення, думаецца, і шкоды не будзе, і карысці. Работу трэба рабіць доўга, і будзе ўсякага, лёгкага і цяжкага, удач і няўдач, дай Бог, толькі здароўя і яснае галавы.

Выступаў на пісьменніцкім сходзе Яцко, намеснік старшыні Дзяржкамдруку, і зусім сур'ёзна патрабаваў, каб мы самі, пісьменнікі, скарачалі колькасць выданняў на беларускай мове і больш выдавалася рускай класікі і дзіцячае літаратуры.

Міхась Ціханавіч Лынькоў, дажыўшы век, прасіў, каб прозвішча Броўкі і Лужаніна не было пад некралогам. Броўку, здаецца, упісалі па загадзе зверху, потым зрабілі яму пампезны творчы вечар, дзе ён ад расчуленасці і шчасця так загаварыўся, што назваў родную моваю рускую.

Лужанін на пару тыдняў залёг у бальніцу.

Хораша не здаецца зіма. Сёння раніцай нават дзесяць марозу, удзень пры сонцы сышло да нуля. І над усім гэтым роўна цярусіць снег, і ноччу гэтакі месяц скрозь снегавое сейва, гэтакая зажуранасць, як з «Зімовага сну» Бялыніцкага. Ажно душа баліць. Мучыць мяне такая пара, гэтая касмічная прыцішанасць, здаецца, што адарвалася душа і вісіць на адным валаску, трымціць.

Зашумеў вецер, пыл закружыўся над дарогаю, зашумела лісце, і ніхто не заўважыў, што зламалася лета. Было ўжо Купала — у каровы малако прапала, цяпер вось Пятрок — упаў лісток... Неўзабаве і жыццё ўкароціцца яшчэ на адно лета.

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі расказваў пра «Віленскіх камунараў». Іх знайшоў у Базыліянскіх мурах Янка Шутовіч і перадрукоўваў на машынцы, стукаючы адным пальцам, ужо зусім хворы, нямоглы. Расказваў яшчэ, як сам Максім у час высылкі, працуючы на будоўлі, не меў грошай на паперу, каб пісаць.

Працяг на стар. 4 »

# Ёсць такія свя́ты

## Дзённікавыя згадкі

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3

Сёння сапраўднае свята вясны, не толькі таму, што Першамай. Сонечна, цёпла, хоць і ветрана. Здаецца, што за адну ноч выгарнуліся ў цэлую капеечку зялёныя лісцікі на бярозах. Нават па-летняму спякотна.

Сяджу ў кампаніі людзей, слухаю пра тое, што ў іх дарослыя дзеці, думаю пра гады маіх субяседнікаў, пра час, які яны пражылі, — і ўсё гэта здаецца нерэальным для мяне, бо гэта так далёка, куды ў мяне не хопіць ні сілы, ні здароў'я дайсці. Быццам я пражыў ужо ўсё сваё жыццё.

Гляну ў на лісток у календары — там 17 верасня, успомнілася: «Ты з заходняй, я з усходняй нашай Беларусі». Сёння пра гэтую дату чамусьці не надта любяць ўспамінаць.

Ужо другі тыдзень холад, да пяці градусаў раніцай. На нізкіх месцах замаразкі. А ліст зялёны. Многа зялёнага лісту, а першы жоўты ліст упусцілі ясені ды іржавеюць лістам над чырвонымі гронкамі рабіны. Мокры год, і ліст моцны. Два дні назад усю ноч паласаваў дождж з лютым ветрам, і ў бярозавым гаі паверх жаўталісту ляжыць на верасе зялёны ліст, збіты даждом.

Ідуць асеннія грыбы. Ранняя восень.

Пасяліцца б у гэтую пару дзе-небудзь у лесе, каб у печцы гарэла, і кажушок быў на плячах, каб ціха было, ноч густая за акном стаяла, слухаць ноч і лес, чытаць і пісаць. І ведаць, што назаўтра можна выйсці да рэчкі ці да возера, дзе ажно да касцей дойме пасмурнаю халадэчаю.

Як гэта проста і недасяжна.

Тыдзень назад ціскануў мароз, ночы месячныя-месячныя сталі. Грыбы збіраў замёрзлыя, звонкія, пад густое шаляcценне — сыпаўся буйны, збіты марозам ліст.

А ў палях у гэтую пару адвячоркам «печаль полей». І які зелянцом адсвечвае вада ў возеры! А з таго боку, дзе захад, вада падцякла крывёю.

Учора вярнуўся з вёскі. Там вясна. Азёрныя разлівы ў лагчынах, ляцяць дзікія гусі. Ідзе бярозавы сок, удзень цёпла на прыгрэвах. Хочацца пажыць там, пры лесе, пры вадзе. Вечарам у мяккім чорным небе шчодра відаць зоркі, можна распазнаваць сузор'і. Там, здаецца, і чыталася б, і пісалася б...

Пасля таго, як пасля пракураных кабінетаў, сходак, сяброўскіх пасядзелак выязджаеш да лесу, у вясковую цішыню, кожны раз ловіш сябе на адчуванні — быццам не сваім жыццём увесь час жывеш.

Вячаслаў Адамчык расказваў, як будучы ў санаторыі ў Нясвіжы, стаяў амаль гадзіну пад дождыкам. Чакаў, што ж будзе далей з двума дзікімі качурамі, якія люта біліся з-за качкі. Бойкі да канца так і не дагледзеў, а качка, пакуль два біліся, збегала да трэцяга, які хораша пакракваў збоч, і той патаптаў яе.

І сам жартаўліва сказаў, што хоць ты напішы пра качуроў, пра старога чалавека, які падглядаў за імі, прамок, каб прастудзіцца. І яшчэ расказваў, як падкраўся і падглядваў салаўя, калі той спявае. Расказваў са шчырым дзіцячым здзіўленнем.

Сёння схадзіў на Сляпянскае возера, нават злазіў у ваду, калі можна сказаць, пакупаўся. Вада ажно працінае холадам, здаецца, прасвідроўвае дзірачкі і зацякае ўсярэдзіну касцей. А дзеці, пасінелыя ад холаду, усё роўна плюхаюцца ў вадзе, як гусяняты.

Сасніўся сон: самалёт па́даў на зямлю, і дамы разваліваліся на тым месцы, і паволі, як у кіно, уставаў над зямлёй выбух. Але не гэта галоўнае. Сам я быццам аднекуль зверху бачыў усё гэта, і, галоўнае, былі шэра-карычневыя распушаныя на ветры мяцёлкі трыснягу. І раптам гэтыя шаўкавістыя мяцёлкі, якія пакалыхваліся хвалямі, пачалі ажываць, ператварацца ў шэрых, люта-вясёлых, імклівых ваўкоў, якія ажно высцілаліся на белым снезе ад бегу. Распушаныя, прыгожыя і жахлівыя ў сваёй імклівасці і няўмольнасці...



Фота Екацярыны Пасечнік

Сны звычайна забываю амаль адразу пасля таго, як прачнуся. Памятаю толькі некаторыя, яны часам паўтараюцца.

Сёння зранку марасіла, а пад вечар стала і сонца. Паўстаў прыгожы бярозавы лес на даляглядзе, але да яго не дайшлі. Грыбоў нямнога. Рыжыкі шчодрыя, яркія, але не частыя, і чорных груздоў няшмат.

У клёна з зялёным яшчэ лісцем адна толькі галіна барвовым агнём абпалена, ці не першы трывожны знак у лесе над зарослаю ўтравянелаю дарогаю, з чыстымі лужынамі вады.

Прачнуўся сярод ночы. Цішыня. На вокнах паклаў след мароз. Зямля белаватая ў святле ліхтароў ад невялікага снегу. Пачатак зімы, ледзяны холад ад умерзлае голае зямлі.

Прычытаў у Дастаеўскага: «Мне грустно было, что звание писателя унижено в наше время каким-то темным подозрением и что на писателя уже заранее, прежде, чем он написал что-нибудь, цензура смотрит как будто на какого-то естественного врага правительству и принимается разбирать его рукопись уже с очевидным предубеждением».

«Людзі, якія не ведаюць ні законаў мовы, ні гісторыі Беларусі, ні самой мовы — ні беларускай, ні польскай, ні рускай (жаргон, якім яны гавораць і пішуць, нельга назваць мовай), здолелі, на вялікі жаль, устанавіць правіла пісаць не Менск і не Навагрудак, як пішацца ў рускіх, беларускіх і славянскіх летапісах, а «Мінск», «Навагрудак», гэта значыць — у польскім вымаўленні. І гэтыя людзі шчыра верылі, што змагаюцца гэтым мерапрыемствам з уплывам польскай мовы на беларускую».

Чытаючы Кузьму Чорнага, думаючы пра тое, як жаліўся ён, што заняты рознаю непатрэбнаю мітуснёю, маючы адзінае яснае жаданне, — пісаць — ведаў, што самае важнае. Да гэтага дайшоў Мележ. Гэта галоўнае.

Мароз пад дваццаць градусаў. Зіма пачалася на пачатку снежня, каб толькі не раскідалася пад новы год. Учора быў з сынам у лесе: прыгожа, снег лёгкі, лыжня не ўсюды яшчэ прабіта, сам нарэзваеш яе вострымі наскамі лыж.

Упоперак сцежкі — вялікая, меднаствольная сапраўдная сасна. Корань, як купіна, вывернуты, і гэтакі малы на такое магутнае дрэва, няма ў ім стрыжня, каб глыбока ўвайсці ў зямлю. Як па́дала, легла на суседку, цёмнастволую сасну, якая расла ў цяні ад гэтае каралевы, сагнула яе.

Усё амаль як у жыцці чалавечым.

Падаюць старыя сосны таму, што малы вакол іх падлесак, а паадзіночку не могуць трымаць вецер. Дрэвы не вінаваты, што не падняўся маладняк, а ў людзей калі такое, то самі людзі вінаваты.

Ноччу снілася вайна, якую я проста не магу ведаць. Сніцца даўно і часта.

Быў у вёсцы. Восень. Чырвоная машына на вуліцы. Дагледжаны сам, жонка, дзеці. Ад'язджаем. Праз акно бабуля глядзіць. Сіняя хустка, старэчы журботны твар і вочы... Божа, вочы чалавека, які даўно змірыўся з думкаю, што адыходзіць і які так жалкуе на гэтым беражку, краёчку жыцця, і гэтак хочацца глядзець на гэты свой свет, няхай бедны шэра-асенні. А вочы ўжо амаль не свецяць, і перад імі найбольш шэрая пляма. Але светлая. Махаю ёй рукою, развітваюся, а яна гэтага не бачыць. Тая, што мяне маленькага гадавала. Глядзіць пакуль што ў свой белы свет, і так глядзіць, што душа крывёй абліваецца.

Быў бы я мастаком, як бы я гэта намаляваў! Гэтае вясковае жыццё, гэты краёк-беражок, гэту восень, гэтае такое роднае аблічча.

Пра літаратурныя сплетні не хочацца не тое што пісаць, але і думаць. Ёсць апошняя радасць — «Знак бяды» Васіля Быкава. Рэдактарская мая радасць, што ў газеце («Літаратура і Мастацтва». — **Рэд.**) ёсць артыкул Ігара Дзядкова пра аповесць, водгук, відаць, самы першы. Прывёз яму дадому. Нічога не сказаў, што ў нас усе паважаныя крытыкі былі так заняты, што тэрмінова напісаць не маглі — а трэба было неадкладна, пакуль не загаўкалі з падваротняў, — дзякуй Богу, адгукнуўся з Кастрамы па старым знаёмстве Ігар Аляксандравіч. Ён ужо мае аўтарытэт усесаюзнага крытыка.

Схадзілі з Адамчыкам у бальніцу да хворага Крапівы, ляжыць на трэцім паверсе, у дзявятай палаце, дзе паміраў некалі Мележ. Гэтак званы «люкс», невялічкая баковачка. Сам устаў, сеў на ложку. Бачыць зусім дрэнна. Пакуль прывыкаў да галасоў, блытаў нас. Што патрэбна, знаходзіць вобмацкам. Гаворыць, што амаль не бачыць. Але зблізку, водзячы носам па паперы, чытае. Губляюцца радкі, даводзіцца трымаць іх пальцам. Добрае здзіўленне, што Адамчык ведае травы, праўда, часам паўтараецца ў словах і апісаннях, а ў Шамякіна ёсць і быт, і дэталі, а вось галоўнага, вобраза Леніна, няма... Галава ў чалавека ясная, памятае ўсё. Хоча яшчэ дапісаць і п'есу, якую пачаў. «Хоць вы яе і не паставіце», — вось такое рэзюме з усмешкаю. Гэта ён паўтарыў потым і начальству, калі яно прыйшло наведаць яго.

Глыбокая восень, а такая цяплынь стаіць, што аж трывожна за такое доўгае і шчодрае цяпло.

Сяджу ў Каралішчавічах. Лес тут яшчэ сапраўдны, з магутнымі соснамі, прыцемак пад кашлатымі ялінамі. Яліны ўжо пазначылі на высечку, адкляймавалі і многія сосны. Новая дарога і так падрэзала лес блізка да будынка. Так хутка дабяруцца і да памятнае яліны, пад якой любіў адпачываць Колас. Наогул, запусценне, Каралішчавічы дажываюць свой век як Дом творчасці.

Перад ад'ездам сюды быў на бюро ЦК КПБ, дзе разглядалася пытанне аб кіраўніцтве СП БССР літаратурнымі перыядычнымі выданнямі. Яўген Іванавіч Танк дакладваў наогул, што надрукавна, што будзе друкавацца, што пайшло на ўсесаюзную арэну. Самы галоўны недахоп у працы аказаўся ў тым, што супрацоўнікі не сядзяць у рэдакцыі па восем гадзін. Пра матэрыяльнае забеспячэнне ні слова, пра тое, што бібліятэкі практычна ігнаруюць падпіску — нічога. Нікому з рэдактараў слова не далі. Потым збіралі зноў, каб канчаткова дапрацаваць пастанову. За гэты час зрабілі запыт у Маскву — там супрацоўнікі не выседжваюць цэлы дзень у кабінетах, і гэтае пытанне адпала само сабой, самі сабой зніклі і закіды наконт «мелкотравчатого национализма», пастанова атрымалася быццам і грунтоўная, але бескарысная, добра, што і шкоды ад яе не будзе.

Тут каралішчавіцкая зіма развальвецца зусім, лыжы скончыліся, па вечарах слухаю ўспаміны Рыгора Няхая пра вайну, пра пасляваенны час, пра іх пасляваенныя пасядзелкі з сябрамі за чаркаю — з Астрэйкам, Вялюгіным, Нагнібядой...

Прачнуўся ноччу, сеў за стол. За акном зімовая ноч, снегавое мроіва, на падваконніку, на фоне шыбін, неяк фантастычна стаяць эльвасы, пад адным з іх трыма зялёнымі лісцікамі ўзышла невядомая мне раслінка.

Некалі хораша пісалася ў такія ночы, асабліва ў лесе. Тады яшчэ не ведаў, што такое бяссонне, што такое боль у сэрцы. І цяпер яшчэ па інерцыі думаю, што ўсё яшчэ наперадзе. Чамусьці ўспомнілася, як у апошні прыезд дадому бабулька расказвала мне, што сасніла сон, быццам я яшчэ маленькі, адзеты ва ўсё белае, сабраўся ісці гуляць да цёткі Ганькі, якая ўжо была памерлая: «А я ведаю, што гэта такое, кінулася не пускаць і ноччу з палка ўпала на падлогу». І я ведаю, што гэта зусім ад старэчай нямогласці, ужо ўстаць сама не можа. Ляжыць і памірае. Ад гэтага сну расхвалявалася маці, знайшла мне пасажыраў да Мінска, каб адзін не ехаў: «Можа, у каго большае шчасце, разам з людзьмі едзь».

Чытаю ўспаміны пра Тургенева. Той, што на пачатку шляху горка гаварыў пра ролю пісьменніка ў рускім грамадстве як нейкага адшчапенца, ненармальнага, дажываў свой век у Францыі пры Віярдо і не саромеўся гаварыць Фету пра тое, што вывезеная ім у Францыю дачка не можа нават сказаць па-руску «хлеб», «вада».

Зранку холадна, ветрана і дажджліва. Свежая зеляніна лісця на яблынях неяк цямнее, сталее ад гэтага дажду і холаду. Часта так у прыродзе задумана — у час цвіцення дажджы і холад. Каб вучылася выжываць будучае жыццё, якое яшчэ хоча толькі пачацца? Зараз бы ўсё ў лес, у напаленую хату, быць аднаму, пісаць ці чытаць, глядзець праз акно на дождж і ад гэтага быць шчаслівым.

*1970-я гады*

# Красавіцкі рэй



Людміла СІМАНЁНАК

***

*Вясна злупіла лахманы са смецця,*
*Вадою змыла рэшту цішыні.*
*Тваёй Парыжу не было на свеце,*
*Твая Масква згарэла — у агні.*

*Прышпілены, як фотаздымак раю,*
*Часопіса шматочак да сцяны.*
*Бясконцая дарога абяцае*
*Збаўленне ад пакуты і віны.*

*Ісці яе няма патрэбы пільнай —*
*Да мэты нават песня не ляціць:*
*Не вые воўк у лесе каля Вільні*
*І гейналіст у Кракаве маўчыць.*

*Прызнайся і павер сабе нарэшце,*
*Бо ведаў ты і ў маладыя дні:*
*Тваёй Парыжу не было на свеце,*
*Твая Масква згарэла — у агні.*

***

*Покуль верылі ў прышласць расчулена*
*Ды плёскалі Бога па лужынах,*
*Мова матчына стала бабулінай,*
*Потым кніжнай, халодна-адчужанай.*

*У чысцю́ да пустэчы гарнулася,*
*Укаханая толькі вар'ятамі,*
*Ды ізноў праз плячо азірнулася,*
*Быццам марыць прыйсці за адплатаю.*

*Праз вуголле сваё фільтраваная,*
*Пасміхаецца з высілкаў марнасці*
*Ды міргае скрозь вокны прывабнаю*
*Незнаёмкаю з іншай рэальнасці.*

***

*У жаху або з палёгкай,*
*Хто верыць і хто не верыць,*
*Ці разам ці паасобку*
*Адчыним угору дзверы,*

*Дзе птушкі скідаюць пёркі,*
*Запэцканыя у брудзе.*
*Клады — прыступкі да зоркі,*
*Дзе будзе… Або не будзе?*

***

***Памяці Анатоля Канапелькі***

*На браме ўласнага дома*
*Збівалі чужынскі заклён.*
*А было іх — дзясятак вядомых*
*Ды сотня такіх, як ён.*

*І тысяча, што ўтрапёна чакала*
*Ранішні звон ключоў.*
*І рэшта, якая рахмана маўчала*
*І будзе маўчаць ізноў.*

*Здавалася, можна паверыць*
*У родны агмень. Аднак*
*Выплыў з дрыгвы — на дзверы —*
*Брыдкай пячаткі знак.*

*Зноў трэба тысяча — марыць*
*Ды ўпарта вузлы вязаць.*
*І трэба сотня — ударыць,*
*І дзесяць — каб узарваць.*

*Што ж, калі заўтра горай за ўчора —*
*Кулямі па траве…*
*Нават пад саванам трыкалору*
*Памятайце: Жыве!*

***

***Алесю Пушкіну***

*Асфальт гудзе будзённасцю машын,*
*Хмялеюць дрэвы у чаканні лісця.*
*Мастак малюе Віцебск-успамін*
*І Віцебск — той, што збудзецца калісьці.*

*Жанчына, трасянуўшы з веек туш,*
*Міргне на кругавой жыццёвай трасе.*
*Угледзеўшы фацэтны капялюш,*
*Гадзіннікі заблытаюцца ў часе.*

*Штурхне кружэлку красавіцкі рэй:*
*Расчараванні, жарсці, боль і славу.*
*…За слепатой зачыненых дзвярэй*
*Разгорнецца прастора для выставы.*

***

*Нацягнеш красоўкі, каб выйсці*
*у вечар*
*На непрызначаную сустрэчу,*
*Дзе могуць завабіць у супярэчнасць,*
*А могуць балюча пабіць.*

*І як адаганаць ад сябе недарэку,*
*Якому яшчэ ад савецкага веку*
*Патрэбна паўлітра на чалавека,*
*Для «толькі пагаманіць»?*

*Захочаш ускочыць нагой на арэлі,*
*Ды будзеш куляцца, як Марка па пекле,*
*То бітаю, то пераможнай кегляй,*
*Або у свінушніку гусь.*

*Ты зносіш красоўкі, і зносіш боты,*
*І усвядоміш зусім без ахвоты,*
*Што трэба прайсці не адно балота,*
*Каб трапіць у Беларусь.*

*Цынічна Вандэя іклы ашчэрыць,*
*І ты непазбежна хіснешся у веры.*
*Пакліча абрыдліва нудная шэрасць,*
*Як месца ў прыватным раю.*

*І толькі спаліўшы ўсе планы і жарсці,*
*Шукаючы месца, дзе цела пакласці,*
*Ты зразумееш, што шлях той*
*быў шчасцем,*
*Большым за мару тваю.*

***

*Спасланае пракляцце: добра знаць,*
*Якім балючым будзе крок да волі.*
*Калі ж заўсёды пошасць выбіраць,*
*Не вылекуеш пошасці ніколі.*

*Ды так яно, відаць, табе і мне*
*З вышынь наканавана — не парадзіш:*
*Шукаць пустыню, што сляды глыне,*
*Як той прытулак у эдэмскім садзе.*

***

*Я жыву ў зачыненым куфэрку*
*Блізу занядбанага кутка*
*Між аскепкаў бітага люстэрка*
*Й пацярухі шлюбнага вянка.*

*У чаканні прывіднага шанцу*
*Смагай аздабляючы спакой,*
*Я лічыла пацеркі ружанца,*
*Як размовы шчырыя з табой.*

*А цяпер душа ўсур'ёз баіцца,*
*Колькі яе казкамі не цеш:*
*Раптам ключ ты знойдзеш на паліцы*
*І вязьніцу здуру адамкнеш.*

***

*У аўчарні ціха.*
*У аўчарні страшна.*
*У дабра і ліха*
*Адрас учарашні.*

*Збілася ад гною*
*Воўна касмыкамі.*
*Падзялілі зброю*
*Пастухі з ваўкамі.*

*І трымціць кранальна*
*Рысачка у плане:*
*Што ўжо на світанні*
*Выйдзе з той аўчарні?*

***

*Там, дзе лес пераняў дарогу,*
*Да якой маладзік дагушкаў,*
*Я схавала сваёго аднарога*
*І чародку чароўных птушак.*

*Цэлы лес, колькі мела сілы,*
*Укрывала замовай дужай,*
*Каб зіма не кранула крылаў*
*І прыгожых каленяў сцюжай.*

*Азіраюся вінавата:*
*Пакідаючы — не сагрэцца.*
*У палацы тваім багатым*
*Ім ніколі не будзе месца.*

*А калі пражыву знянацку*
*Я даўжэй за наша каханне,*
*Стрымгалоў за апошнім шанцам*
*Прыбягу сюды на змярканні.*

*І ўпаду з раптоўнай знямогі,*
*Не сказаўшы ні слова дакору,*
*Той, што песціць бакі аднарога*
*І збірае для птушак зоры.*

*Старая чмяліха*

*Б'ю неба драным крыллем*
*На скруце галавы.*
*Гняздо маё спалілі*
*Для свежае травы.*

*Падбел шурпатым донцам*
*Расінку песціць мне*
*Ды падпявае сонцу:*
*— Узрадуйся вясне.*

***

*Прасі сабе пакоры і спакою,*
*Бо мы не больш валодаем зямлёю,*
*Чым мурашы — тым борам у нізіне,*
*Што ад іскрынкі дробнае загіне.*

***

*Я — кропля у ценькім яшчэ раўчуку.*
*Кім стану, узяўшы цябе за руку:*
*Вадою, што вуснам дазволіць напіцца,*
*Крывёю, што сэрца прымусіць спыніцца?*

*Адна ж — разгарнуся эфірам нябачным*
*Чакаць небяспекі, як новай удачы,*
*І шанцу імкнуцца праз ноч нацянькі*
*Да мройных абрысаў жаданай рукі.*

***

*Напішы мне пісьмо на бусловым крыле,*
*І прасі, каб ад выраю рушыў смялей.*
*Хай вясну прынясе, і крылом трасяне —*
*Можа, слоўца адно даляціць да мяне.*

*Ліст кляновы увосень вазьму на далонь,*
*Пакручу, пашапчу ды укіну ў агонь.*
*Ты пачуеш — нядоўга чакаць да зімы,*
*Дзе у квецені сада сустрэнемся мы.*

***

*Кранальна, цікаўна і крышачку смешна —*
*На выспе Самоты даволі уцешна.*
*Тут неба глядзіцца ў ваду праз трысцінку,*
*І сонца скрозь сетку цалуе дзяўчынку.*

*Рамантыку фарс абдымае прымхліва,*
*Пастэльны акорд палягае шчасліва.*
*На выспе Самоты някепска бывае,*
*Калі цябе хтосьці на мосце чакае.*

***

*Праз немагчымасць кінутых гадоў,*
*Якіх зязюля нам ужо не злічыць,*
*Калі жыццё пахіліцца далоў —*
*Цераз мяжу апошні раз паклічу.*

*Прайграны пачынаючы двубой,*
*Дазволю сэрцу горкую уцеху.*
*А не пачуеш — то і Бог з табой.*
*Мне з берагу тваёй даволі й рэха.*

***

*З бяздоння вільгаці і цемры*
*Іскрынка пачынае шлях,*
*Каб кропляю наіўнай веры*
*Адбіцца ў здзіўленых вачах.*

*Не знаць спярша: кахання зорка*
*Якой дарогай павядзе.*
*Заззяе роўна і высока*
*Ці знічкай долу упадзе?*

***

*Залом рукі ля набалелай скроні.*
*І пачуццё то грэе, то пячэ.*
*Я — толькі рысачка*
*на стомленай далоні,*
*Што нечакана лёс перасячэ.*

*Атрута ці гаючая вадзіца,*
*Таемнасць ці пустая каламуць —*
*Усё адно смагу табе прысніцца*
*І пацалункам вусны адамкнуць.*

***

*У небе, на зямлі і пад вадою*
*Я адшукаю востры промень твой.*
*Ці пахілюся ніцай галавою,*
*Ці пралячу імкліваю стралой,*

*Ці дажыву да слёзнага світання,*
*Якое згасіць зорныя сляды*
*На беразе бязмежнага кахання*
*Над урвішчам бяздоннае бяды.*

***

*Паеду ў жыццё далёкае,*
*За тлумныя гарады,*
*Дзе цётачкі не галёкаюць*
*І ў студнях няма вады.*

*Там сочыва адмысловае*
*У сподачак налію.*
*Хай сонца цябе ахоўвае,*
*Падворак твой, дом, сям'ю…*

***

*Хай лісце заўчасна чэзне*
*У выраі незваротным —*
*Мы вып'ем з табою песню*
*Да самай апошняй ноты.*

*З зярнятка ўзгадуем дрэва*
*Без гнёздаў, але да неба,*
*З суквеццямі зорных спеваў —*
*Для тых, каму гэта трэба.*



Фота Екацярыны Пасячнік



Павел
КАСПЯРОВІЧ

# Металёвае сэрца

Кожны па-рознаму праводзіць свой працоўны адпачынак. І добра, калі ён выпадае не на зіму. А то як было ў іх на заводзе — чаргаваліся з брыгадай штогод, каму браць свой тэрмін у ліпені, а каму ў красавіку ці ў лістападзе.

У свой час Юрка вучы́цца моцна не хацеў, хаця мог, і пайшоў у тэхнікум на электрыка-тэхнолага, а калі апынуўся на вытворчасці, адразу паступіў завочна на гістфак (у сярэдніх класах вабіў яго гэты прадмет) і праз шэсць гадоў няспынных сесій і рэфератаў стаў настаўнікам.

У школе і жонку сустрэў, Таню, якая біялогію выкладала. Таму адпачынкі ім выпадалі выключна ўлетку.

Заробкі ў маладых спецыялістаў былі маленькімі — на замежныя курорты грошай не заставалася. Пасля дзеці нарадзіліся, крэдыт на жыллё ўзялі, кватэру пабудавалі, мэблю набылі. На лета выбіраліся ўсёй сям'ёй да жончыных бацькоў на Палессе.

Стараліся ў першы дзень адпачынку адразу і з'ехаць, каб пазбегнуць рознага школьнага форс-мажору: раптоўных выклікаў на працу і спушчаных з вышэйшых інстанцый папер. Бо, шчыра кажучы, атруціла бюракратыя прафесію настаўніка. Прасілі падвезці каго з сяброў ці наймалі мікрабус з вялікім багажнікам, каб улезлі ўсе торбы, каляскі, самакаты і ровары.

Таня паходзіла не тое, каб з сяла якога на некалькі хат, а з гарадскога пасёлка. Але за апошнія дзесяцігоддзі там мала чаго засталося гарадскога, таму пасёлак больш нагадваў неперспектыўную вёску.

Палессе — край прыгожы і своеасаблівы. Калі прыязджаеш сюды ўпершыню, нібы трапляеш у іншую краіну ў параўнанні з астатняй Беларуссю. Векавыя пушчы з непралазнымі багнамі топкіх балот і блакітныя люстэркі празрыстых азёр. Гавораць, што нават гітлераўцы з Саветамі дабраліся ў дальнія куткі гэтых мясцін не адразу. І доўга панавала там мірнае безуладдзе пад пранізлівы посвіст зімовых завей.

Паабапал шашы цябе сустракаюць абвязаныя ручнікамі крыжы на раздарожжы і мільгаюць незагойныя раны жахлівай меліярацыі: зарослыя трыснягом каналы з кволымі артэрыямі высахлых рачулак у хмызняку. І паўсюль чароды буслоў — на электрычных слупах, хатніх стрэхах і лапіках калгасных палеткаў.

Народ тут жыве цягавіты і самастойны — палешукі. Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, нібыта сам маршал Ракасоўскі меў тутэйшае паходжанне. Здольныя палешукі працаваць ад рання і да змяркання, галоўнае, каб было дзе і грошы плацілі. З чым на Палессі ў апошні час сталася праблема.

І людзі выжывалі па-рознаму. Хто прыстасаваўся харчавацца з агарода і працаваць за грашы, нехта збіраў ягады з грыбамі і за сезон зарабляў на цэлы год, а хтосьці даволі не блага вырошчваў клубніцы ці агуркі. Мужыкі цэлымі брыгадамі з'язджалі нелегаламі на будоўлі ў Расію, а моладзь цэліла ў Мінск ці Польшчу. Некаторыя ж нікуды не імкнуліся і проста пілі «горкую», апраўдваючы сябе безвыходнасцю.

У пасёлку працавала стратная дрэваапрацоўчая фабрыка, сяльпо, Дом бытавога абслугоўвання, механічны цэх, некалькі крамаў, «загатларок» і сельсавет. Упрыгожвалі гэта ўсё бібліятэка, школа, драўляная царква, абеліск загінулым воінам і зруйнаваны касцёл.

Юркаў цесць меру ў чарцы ведаў і пра гаспадарку дбаў. Дом паставіў цагляны, а некалькі гадоў таму падвёў газ, электрабойлер падключыў і цёплы клазет прыбудаваў.

Чым не курорт?

Хочаш — ідзі з дзецьмі на рэчку, не — дык можна паехаць на роварах на возера. Ці гуляць па непакошаным калгасным стадыёне сярод водару дзікіх траў.

Да ўсяго цешча яшчэ бялізну прасавала і завіхалася на кухні.

Сапраўдны дом адпачынку!

Але, канешне, пакуль залевы не пачыналіся.

Тады прыходзіў смутак, і сядзелі яны ў хаце, як за кра́тамі.

Юрка быў хлопцам чыста гарадскім, але за столькі гадоў асвойтаўся і стаў адчуваць ажно родную сувязь з гэтым кутком. Пазнаёміўся з многімі пасялкоўцамі і з аповедаў Тані даведаўся пра шмат чалавечых лёсаў.

Пра хлопца таго, Сіўчыка, жонка даўно расказвала. Быў ён старэйшы за яе на некалькі гадоў. Быццам ягоны бацька прыехаў з пасялення ў Воркуту лагу. Ажаніўся. Імя народжанаму хлопчыку далі дзіўнае — Арцём. Арцёмка падрос, вучыўся ў школе ндрэнна. У перапынках паміж заняткамі і дапамогай бацькам цягаў на падворку самаробную штангу з гантэлямі.

З Польшчы прыходзіў часопіс «Dziennik Ludowy», з якога савецкая моладзь Заходняй Беларусі даведвалася пра апошнія навіны еўрапейскай музыкі: disco, new wave, heavy-metal, які і стаў галоўнай Арцёмавай жарсцю разам з «качалкай».

На заробленыя зборам ягад грошы ён купіў бабінны магнітафон і вінілавы прайгравальнік. Сістэму калонак і лямпавы ўзмацняльнік змайстраваў сам, бо наведваў раней радыёгурток. У хлапечым пакойчыку за печчу шчыльна сталі на паліцах «пласты» і скрыначкі з плёнкамі, па сценах віселі плакаты.

І, да ўсяго, ён уладкаваўся кругціць музыку на танцах.

— Хадзіў Арцём з доўгімі белымі валасамі, увесь такі «накачаны», — і Таня згінала рукі, паказваючы біцэпсы, — з грудаком наперад, — яна выгінала спіну, — у джынсоўках. Самы галоўны металіст, як мы казалі. А як ён пад гітару



Фота chrontime.com

спяваў!.. І было ў яго каханне з адной красуняй, Светкай, — працягвала Таня, — калі ішлі яны разам, усе глядзелі ўслед — такая пара прыгожая. А пасля ён паступіў у Брэст на гістфак, яна ў Мінск. Яшчэ сустракаліся нейкі час — і разбегліся. Казалі, што Светка здрадзіла, а ён не здолеў дараваць ёй. Далей я ўжо дакладна не ведаю, — распавядала Таня, — быццам Арцём кінуў інстытут і пайшоў служыць. Патрапіў ва ўнутраныя войскі. І ледзьве не забілі яго — вярнуўся з жалезным пратэзам у руцэ ды інваліднасцю...

Гэта было праўдай, раненне Сіўчык атрымаў на Каўказе падчас захопу незаконнымі фарміраваннямі складоў са зброяй. У шпіталь яго прывезлі яшчэ пры Савецкім Саюзе, а камісавалі ўжо пры новай Расіі і незалежнай Беларусі.

Гісторыя тая была пакрытая грыфам сакрэтнасці, таму дакладна ніхто нічога не ведаў.

— Вярнуўся Сіўчык у пасёлак героем, — завяршала свой аповед Таня, — хадзіў у форме пятністай, нават Светка думала да яго вярнуцца. Але нешта адразу ў іх не заладзілася. На працу яго з інваліднасцю нікуды не бралі, ён пачаў піць, з цёмнымі кампаніямі сябраваць і спіўся ўшчэнт.

Пасля смерці бацькоў жыў Сіўчык адзін. Музычная тэхніка зламалася, і нават «загнаць» яе не знаходзілася каму. Збіраў чарніцы з лісічкамі. З першым снегам знікаў кудысьці, каб не памерці з галадухі ў прамерзлым доме. Казалі, што зімуе ён на вакзалах у гарадах. Увесну Сіўчык вяртаўся і зноў пачынаў бадзяцца.

— І быццам расійскую пенсію яму плацілі спачатку, — дадавала Таня, — але ён дакументы наноў не аформіў і ўвогуле пашпарта не меў.

Юрка амаль у кожны прыезд бачыў гэтага дзіўнага дзядзьку з доўгімі валасамі і заўважаў яго няўмольную дэградацыю.

— Можа, паразмаўляць з ім, каб ён не піў, — прасіла жонка, — ты ж сам былы тусоўшчык, умееш знаходзіць мову з такімі людзьмі.

Як і многія, чыя маладосць прыйшлася на мяжу 80-90-х, Юрка любіў «цяжкі рок», як з пафасам называлі гэты музычны стыль у тагачаснай прэсе, і пранёс сваё захапленне праз гады, толькі ўжо без максімалізму.

— Ага, — аднекваўся Юрка, — так ён і пераменіцца адразу. Каб усё было так проста!

І Таня сумна змаўкала.

Лета на Палессі пераменлівае. Некалькі дзён можа стаяць спёка. А потым на даляглядзе з'яўляюцца невялічкія хмаркі. Адна, другая... І праз гадзіну з-за вяршалінаў далёкага лесу выпаўзае агромністая чорная хмара на паўнеба. Вецер узмацняецца. Віхрамі ўздымаецца пыл. І дробная шрапнэль дажджу зрываецца з нябёсаў.

Калі тая хмарына навісла над пасёлкам, Юрка яшчэ думаў паспець дамоў да навальніцы, але пачало ліць з такой сілай, што ён мусіў схавацца пад шатамі высозных таполяў, што абрамлялі статую правадыра сусветнага пралетарыяту ў скверы.

І апынуўся там не адзін. Акрамя таварыша Ульянава пад навіслым голлем з бідонам чарніцаў дрыжаў прамоклы Сіўчык.

«Які нечаканы выпадак!», — падумаў Юрка і павітаўся: — Добры дзень.

Сіўчык абыякава кіўнуў.

Дождж узмацніўся, і яны падаліся на два крокі назад.

— Гэта надоўга, — прысвіснуў Юрка і паглядзеў на Сіўчыка. — Даруйце, даўно хацеў з Вамі пазнаёміцца, — прадоўжыў, але раптоўна сумеўся. — Вы на гістфаку вучыліся? Я таксама гісторык, у школе выкладаю. Да цешчы на лета прыехаў.

Па зморшчаным твары Сіўчыка прабегла здзіўленне, бо так з ім ніхто даўно не размаўляў. Адзінае, што ён чуў у апошні час, — мацюкі сабутэльнікаў.

— Не давучыўся я, — прасіпеў Сіўчык, — забраў дакументы.

— А-а-а...

Ніці размовы губляліся. Пад падэшвамі расцякалася лужына. Яны памаўчалі некалькі хвілін.

— Дзесьці міліцыянер нарадзіўся, — здасціпнічаў Юрка.

— Ды халера яго бяры, — раздражнёна вылаяўся Сіўчык, — мянта гэтага!

— Я чуў, вы рок-музыку любіце? — Юрка ніяк не хацеў страціць суразмоўцу.

— Няма на чым слухаць! — адмахнуўся ад яго Сіўчык.

І тут здагадка прасвятліла Юркаў твар. Ён успомніў словы жонкі і дастаў з кішэні смартфон. Правёў пальцам па экране і выйшаў у Ютуб:

— Metallica, новы альбом, — і працягнуў тэлефон Сіўчыку.

Той збянтэжана ўтаропіўся ў экран. Ён ніводнага разу не трымаў мабільнага тэлефона.

Пад шатамі загучалі металічныя рыфмы.

— Metallica?! Яны яшчэ існуюць?

— Канешне! — запэўніў Юрка. — Паглядзіце, кліп-прысвячэнне спачыламу Лэмі з Motorhead.

— Лэмі памёр? — занепакоіўся Сіўчык (як доўга ён не чуў гэтых імёнаў). — А хто яшчэ памёр?

— Дзіа.

— Дзіа памёр... — і Сіўчык раптоўна перахрысціўся.

— А Озі!?

— Озі жывы.

— Ну слава Богу! А Manowar? Judas Priest?

— Жывыя, не хвалюйцеся, гастралююць.

Сіўчык утрапёна ўзіраўся ў экран...

...У верасні 1991 года іх падраздзяленне раптоўна кінулі на ахову таго легендарнага канцэрта ў Тушына, калі выступалі Pantera, Metallica і AC/DC. Усю ноч на тушынскім полі палалі вогнішчы і сцягваліся металісты з усяго СССР, што з'язджаліся ў Маскву цэлымі цягнікамі, як паломнікі на хадж.

Перад высознай сцэнай хвалямі рухалася чалавечае мора. Спачатку на разагрэве гралі некалькі маладых каманд. А пасля выйшлі Metallica. І мільённы натоўп зваръяцеў:

— А-а-а... Металіка-а-а-а...

І грымнулі акорды песняў, пад якія яны матлялі патлатымі галовамі на танцах і слухалі тайком на касетніку ў казармах.

Пачаліся крывавыя сутычкі. І падраздзяленні ўнутраных войскаў разам з міліцыяй, цэлую плойму якой прыгналі туды, сталі ўціхамірваць раз'юшаную моладзь, і гэта засталося для Сіўчыка ганебным успамінам, бо не мусіць салдат збіваць свой народ. Ладна, мянты: калашмаціць п'яных у пастарунках — іх заўсёдная справа.

Але гэта было яшчэ не ўсё ў той незабыўны дзень.

Апошнімі на сцэне з'явіліся AC/DC...

Праўда, ён так і не прыняў Брайана Джонсана як вакаліста і больш любіў «Эйсі» з Бонам Скотам, які задыхнуўся ванітамі ў 1980-м. Калі на танцах музыка сціхала ў перапынку паміж песнямі і дзяўчаты чакалі якую-небудзь наступную кампазіцыю кшталту Sandra ці C.C.Catch, раптоўна чуўся драйв першых рыфаў і ўступаў хрыплы голас нябожчыка Бона:

— Touch Too Much...

І хлопцы як па камандзе выскоквалі ў круг, а Арцём хапаў у рукі швабру і нібы «піліў» па струнах...

Сіўчык плакаў.

Залева прайшла, і над пасёлкам радасна раскінулася вясёлка.

Яны прыселі на кукішкі і доўга глядзелі розныя кліпы.

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

# Металёвае сэрца

Дома Юрка натхнёна расказаў жонцы пра сустрэчу.

— Ой, як добра… — расчулілася тая…

Сіўчык нерухома ляжаў на рыпучым ложку. За шыбамі сотнямі конікаў свірчэў цёплы ліпеньскі надвячорак. Вакол хаты стаяла непакошаная трава, і толькі вытаптаныя ў бадыллі сцяжыны паказвалі галоўныя напрамкі яго існавання: лес, «загатларок», крама.

Дзесьці прагудзеў аўтамабіль, пачулася дзіцячае шчабятанне — мабыць, дзятва вярталася з возера, перапоўненая шчасцем і весялосцю. Замы́кала на рагу вуліцы карова — і нехта закрычаў: «Зорка, Зорка!». У пасёлку даўно перасталі трымаць жывёлу, і ад вялікага статка засталося ўсяго некалькі рагуль.

Але ўсе гэтыя гукі навакольнага жыцця не краналі яго.

Якая жудасць у пустой хаце! Павуцінне і бруд. Даўно не заходзіла сюды ніводная жанчына.

Сіўчык цяжка ўздыхнуў.

З пажаўцелага фотаздымка сумна ўзіралася маці. Знікнуць бы куды: павесіцца ці патануць. І шукаць яго ніхто не будзе. Жыў Сіўчык — і няма. Толькі ад сябе не збяжыш. У доўгія ночы жахлівай самоты, калі ты не ведаеш, што з табой — смерць альбо белая гарачка, ён востра адчуў неўміручасць душы. Вось памрэ ён цяпер, а застанецца пульс несупыннай думкі. І ўвесь гэты згустак болю яго неўтаймаванай асобы пяройдзе ў іншае вымярэнне — вечнае жыццё. А значыць, трэба жыць, але жыць неяк інакш!

Пачутая сёння музыка ўсё гучала ў яго пачарсцвелай душы.

Сіўчык падняўся, адхінуў брудную дзяругу, пакорпаўся ў запечку і выбраў нейкую апранаху са старога рыззя, пасля намацаў на паліцы дробны абмылак, іржавую брытву і выйшаў на ганак.

Распрануўся і стаў абліваць сябе вадой са студні, вядро за вядром. Слізкі абмылак выскокваў з пальцаў і не хацеў мыліцца.

Але Сіўчык усё ж здолеў пашкрэбаць шчокі тупым лязом і пагаліцца.

…У клубе працавала мноства дзіцячых студый. Арцём займаўся ў музычнай па класе гітары, а Светка малявала. Яны бачыліся і ў школе, але менавіта ўвечары на творчых занятках сустракаліся часцей і разам вярталіся ў свой бок пасёлка. Ён расказваў ёй пра hard-rock і браў пачытаць з яе хатняй бібліятэкі Сцівенсана, Вальтэра Скота і Купера — рэдкія на той час кнігі, якія прадаваліся толькі па талонах за здадзеную макулатуру.

— Жаніх і нявеста! Жаніх і нявеста! — крычалі ім услед. Яна сарамліва чырванела, а ён вяртаўся і біўся з жартаўнікамі.

І аднойчы на развітанне Арцём сунуў нешта Светцы ў далонь.

— Што гэта? — здзівілася яна кавалачку скуры з намаляваным чэрапам.

— Чорная метка! — загадкава прашаптаў ён. — Пасля прачытаеш!



Фота svaboda.org

Яна хутка пабегла дамоў і, зачыніўшы дзверы ў пакой, расціснула пальцы: «Я цябе кахаю».

Светка не прыходзіла ў студыю некалькі дзён і ў школе яго не заўважала. Арцём не ведаў, што і думаць. Няўжо гэта канец іх сустрэчам?

А потым яна падышла і моўчкі перадала папяровы скрутак.

І цяпер ужо ён стрымгалоў нёсся да хаты і разразаў нажніцамі вузельчыкі.

У скрутку ляжала цішотка з дзявочай рукой намаляванай эмблемай гурта Iron Maiden — чэрапам Эдзі…

Цяпер, праз столькі гадоў, фарбы выцвілі, але мярцвяк па-ранейшаму жахліва ўсміхаўся. Сіўчык нацягнуў цішотку на зморшчанае цела і рушыў у цемру надыходзячай ночы.

Звычайна поймы тутэйшых рачулак — гэта балоцістыя пожні і зарослыя чаротам старыя рэчышчы з астраўкамі алешыны. Нават не ўсе мясцовыя жыхары ведаюць патаемныя сцяжыны па купінах у гушчары вербалозу. Менавіта пра гэтыя мясціны пісаў Янка Маўр у сваёй славутай аповесці пра рабінзонаў.

Яшчэ ўдзень тут можна сустрэць рыбака ці ягадніка. А ноччу — што рабіць на балоце чалавеку? Калі ён толькі не следапыт які.

Іскры ад вогнішча ўзляталі амаль да самых вяршалінаў дрэў і знікалі ў густым змроку. Полымя адлюстроўвалася ў ціхай вадзе і было бачным здалёк, але хто мог угледзець яго ў гэты час?

Вакол вогнішча, нібы стары шаман, хадзіў басанож чалавек з гітарай на рамяні і нешта спяваў прыгожым дрыготкім голасам. Пасмы сівых валасоў звісалі на твар, праз іх тонка дымела цыгарэта, як у Слэша з Guns N' Roses.

Так, гэта быў Сіўчык.

Чэрап Эдзі з цішоткі пазіраў ужо даволі жудасна, нібы ваяўнічы ўзор воіна перад выхадам на шлях вайны. Адно, што не ставала тамагаўка.

Але якая магла быць у яго вайна? Толькі з самім сабой. І тую ён даўно прайграў.

Ужо добрае дзесяцігоддзе не трымаў ён у руках інструмента. Але пальцы ўспомнілі лады грыфа амаль адразу.

І хіты яго маладосці несліся ў неба і заставаліся вечнымі пасланнямі недасяжным зорам.

Наўрад ці якую з тых песняў чакае лёс незабыўнай «Іліяды» Гамэра, і ніхто не заспявае іх праз сто гадоў. І толькі гукавыя вібрацыі касмічнай прасторы перададуць гэтыя шчырыя ноты высока-высока.

…Аднойчы, у класе сёмым ці восьмым, матэматычка пакінула ўсю іх групоўку «хуліганаў», як яна іх называла, пасля заняткаў і сказала, што не адпусціць, пакуль яны не выканаюць заданне.

А яны селі ў куце і загарланілі зламанымі падлеткавымі галасамі «Чёрный Кофе»:

*Деревянные церкви Руси,*
*Перекошены древние стены…*

І спявалі перад раз'юшанай настаўніцай да прыходу пераляка́ных бацькоў…

…Гэта суправаджалася заўсёднымі спрэчкамі, як правільна вымаўляць — Акцэпт, Экцапт ці Акцапт — назву нямецкага гурта «Accept». Але калі чуўся рыпучы вакал Уда Дзікшнайдэра — хлопцы проста заходзіліся ад экстазу:

— Princess of the Dawn!..

— Balls to the Wall!..

— Metal Heart! Metal Heart!..

Менавіта так: металічныя сэрцы біліся ў іхніх грудзях, думалі яны тады…

…Здаралася, што яны лавілі ў калідоры якога актывіста і зацягвалі яму піянерскі гальштук за канцы так, што развязаць яго ўжо не маглі, толькі разразалі. І калі іх выклікалі на Савет дружыны, яны станавіліся плячо ў плячо і галасілі «Арию»:

— Воля и разум! Воля и разум!..

…І раптоўна чорную вестку прынесла «галубіная пошта»: загінуў басіст Metallica Кліф Бёртан. Яны навязалі чорныя павязкі на рукавы і хадзілі так па школе. І ніяк не хацелі іх здымаць, і сумна спявалі легендарны хіт з альбома «Ride the Lightning»:

— For Whom The Bell Tolls (Па кім б'юць званы)…

…І цяпер амаль нікога не засталося з іхняй кампаніі. Каго зарэзалі ў п'янай бойцы, хто атруціўся тэхнічным спіртам, нехта патрапіў у калонію і памёр ад сухотаў, а хтосьці разбіўся на матацыкле.

І зноў улюбёны Джэймс Хэтфілд:

— The Unforgiven (Той, хто не пакаяўся)…

«Панк», «Ліс», «Заляха», «Ёпа», «Кабан», «Губа», «Танчык», «Сліва», «Шакал», «Муха», «Сідар», «Зютак», «Карапа»…

Вечная памяць спачылым сябрам!

Сіўчык скакаў вакол полымя, прысядаў на кукішкі, то гойдаўся на месцы — апошні прадстаўнік некалі слаўнага племені паляшуцкіх металістаў.

І з наэлектрызаванага прыцемку таемна гучаў стройны акампанемент музычнага ансамбля: сола, бас, бубны…

Неба святлела. Пачынаўся золак.

Зранку Таня выйшла ў краму і прынесла дзіўную для пасёлка навіну. Нехта ўначы пранікнуў у клуб і абрабаваў музычную студыю. Такое здарылася ўпершыню за ўвесь час існавання ўстановы. Прычым кожны з пераказчыкаў дадаваў сваю версію крадзяжу, што, маўляў, вынеслі і піяніна. Сторож з пераляку не стала шукаць участковага і адразу патэлефанавала ў «102». Дзяжурны ў раёне таксама не пачакаў перазменкі і накіраваў на месца здарэння найбліжэйшы аўтамабіль службы аховы з кінолагам і сабакам у экіпажы. Тыя знайшлі кусок нейкай штаніны на цвіку і без следча-пошукавай групы самі пайшлі па следзе, мяркуючы, што злодзей сядзіць у хаце паблізу.

Над ракой стаяў звычайны ранішні туман. Ужо даўно прачнуліся птушкі і выводзілі свае трэлі. Сонца паціху выглядвала з-за вяршалінаў дрэў. Сіўчык мірна спаў каля патухлага вогнішча, увесь пасыпаны попелам. Каля ног ляжала гітара са скрываўленымі струнамі.

…Калісьці Светка цалавала яго на расстанне «крыжыкам» — у лоб, вусны і вочы, каб зберагчы ад бяды і сурокаў. А аднаго разу падарыла маленькае шчаня з ласкавым імем Эдзі. І цяўкаў той сабачка так міла:

— Цяў, цяў…

Сіўчык ляжаў, і вусны яго ўсміхаліся, як ад пацалункаў, а закрытыя павекі варушыліся, нібы бачачы нешта:

— Цяў, цяў…

І вось гэтае цяўканне станавілася ўжо гучным брэхам і чулася зусім непадалёку над усёй палоскай берага:

— Гаў, гаў!!!

Ачмурэлы ад начнога трывання Сіўчык цяжка прадзёр вочы і ўбачыў вялізнага сабаку, які імчаўся на яго з двума міліцыянерамі ззаду.

Музы́ка ўсхапіўся і сігануў да ракі.

Сівы, босы, мурзаты, схуднелы, як шкілет, з эмблемай смерці на грудзях.

— Стой, дурань! — закрычаў адзін з міліцыянераў, трымаючы злога сабаку на павадку.

Але Сіўчык з разбегу даў нырца і знік у вадзе. Толькі кругі з бурбалкамі паказвалі некалькі імгненняў яго рух.

— Хто гэта быў?! — здзіўлена запытаўся запыханы міліцыянер з адвіслым жыватом з-пад расшпіленай кашулі.

— Ды Чынгачгук нейкі мясцовы! — раздражнёна вылаяўся расчырванелы напарнік, — столькі беглі за ім, падлюга!

Яны яшчэ пахадзілі па топкім беразе і ў ваду не палезлі.

Больш Сіўчыка ніхто не бачыў. Прыязджалі вадалазы, корпаліся на глеістым дне, моцна брыдкасловілі, цела не знайшлі. І аб'явілі Сіўчыка ў пошук.

Таня моцна гаравала і гаварыла Юрку, калі яны праходзілі каля нахіленай Сіўчыкавай хаты з забітымі вокнамі:

— Са светлым нутром чалавекам быў Арцём, без чарвяточыны, хоць і алкаш…

Але многія з пасялкоўцаў не верылі, што патануў Сіўчык, мусіў выплыць — паляшук усё-такі, з дзяцінства на рацэ. І кажуць, што быццам бачылі яго ў Мінску з бамжамі ў пераходзе метро.

Божа, дай яму з таварышамі цёплыя зімы, штодзённы сняданак і добрых людзей!

# Бязлітасны сыход



Сяржук СЫС

### Зялёнае сэрца

*На досвітку шызым*
*найгоршаю з зім*
*пад змятай падушкаю,*
*мулкай і колкай,*
*намацаю я і збяру па адным*
*шэсць каляровых алоўкаў.*

*На канціках — бляклая літар змяя:*
*«Завод імя Сакка й Ванцэцці».*
*Адкуль тут яны, дзе і сам я ці я,*
*дзе цуды зрабіліся мітамі ў свеце?*

*Паперы ліст жоўтым алоўкам — наўскос,*
*чырвоны ў руках — Віфлеемская зорка...*
*Шкада, што зламаны у сіняга нос —*
*І неба не будзе, хіба што пагоркі.*

*Наступны аловак — дальбог, кіпарыс,*
*авалы выводзіць і пальцы міжволі,*
*малююць збалелага сэрца абрыс,*
*зялёнага сэрца зголкамі хвоі...*

### Прадчуванне

*Я, па-праўдзе, баюся вайны,*
*быць забітым расейскай куляй,*
*без радзіны, сяброў і труны,*
*без апошняга слова матулі.*

*Не памерці! А толькі змагчы*
*быць такім, як вайне патрэбна,*
*з Божым словам і пры мячы,*
*згінуць так, каб было не ганебна.*

*Што жыццё? Яно будзе ці не —*
*вырашаюць баі і паходы...*
*Я хачу быць патрэбным вайне,*
*каб спыніць яе назаўсёды.*

***Чарнігаў,***
***13 снежня 2021 г.***

***

***Галіне***

*Калі можаш — даруй мой Калінавы мост*
*і начныя глыбокія рэкі.*
*Лепей так, за свабодай наўпрост,*
*як яшчэ не зрабіўся калекам.*
*Разумею, як цяжка, сяброўка, адной.*
*Дык трымайся і ведай: аблашчаным Богам*
*будзе некалі ў гэтай юдолі спакой...*
*Калі правільнай будзе дарога.*

***Бранск,***
***ліпень 2021 г.***

### Сыход

*Яшчэ адзін бязлітасны Сыход...*
*Збягаем, пакідаючы радзіну,*
*амокам гнаныя, не ў пошуку прыгод —*
*каб справу захаваць і не загінуць.*
*Такі вось неязгіпецкі Сыход...*

*Кідаюць камянямі нам услед,*
*галёкаюць пра здраду і бязволле...*
*І сінялапы радуецца дзед,*
*шо мы дамоў не вернемся ніколі.*
*Кідаюць камянямі нам услед...*

*Перажывём, як некалі Майсей,*
*калі ў душы не згінула надзея.*
*Мур хутка рухне-рухне... пакрысе*
*над краем родным неба пасвятлее.*
*Перажывём, як некалі Майсей...*

***Курск, жнівень, 2021 г.***

### Гатэль «Украіна»

***Вользе Бражнік***

*Магчыма, што ў траўні гэтага года,*
*калі з дакументамі будзе па-людску,*
*я сяду ў каюту «Люкс» цеплахода*
*і надвячоркам патраплю да Луцку.*

*На трэцім паверсе гатэлю «Ўкраіна»*
*схаваюся зноўку на светлым балконе.*
*Курыць буду «кенты» з бакалам «марціні»*
*і ведаць: адсюль аніхто не прагоніць.*

*Праз шкло сузіраць і людзей, і дарогі,*
*мяняючы рыфмы, радкі і настроі...*
*Стары, непаголены і басаногі,*
*не здатны на ролю супер-героя.*

*А што будзе раніцай — будзе ўсё роўна,*
*галоўнае, што дарабіў сваю справу:*
*успомніў, як некалі Вольга-князёўна*
*унізе піла сваю горкую каву...*

***Чарнігаў,***
***кастрычнік 2021 г.***

### Пане Туман

*Мокры туман расхінаю рукамі,*
*быццам фіранку на брудным акне,*
*дрэвы крычаць, я намацваю камень —*
*вось яшчэ што засталося ў мяне.*

*Мох праглынае сляды... крок за крокам*
*рушу ў туман, у набат цішыні*
*сцятай спружынай, ды з левага боку*
*стрэлам успыхнулі ў цемры агні.*

*Слухаю сэрца свайго барабаны,*
*сцяўся — аблава, ваўчыны капкан?*
*Мне яшчэ рана ў палон, вельмі рана...*
*Ты не па мне сёння плачаш, туман.*

*Тут жа дзесь побач схавалася Прыпяць,*
*воля — за ёй... я павінен... дайду.*
*Ну, а за волю я змог бы і выпіць*
*аж да астачы рачную ваду.*

*Пане Туман, хутай цела без жалю*
*так, каб заўважыць яго не змаглі.*
*Ноч... і рака мяне хваля за хваляй*
*зносіць далей ад варожай зямлі.*

***Чарнігаў,***
***17 снежня 2021 г.***

### Dark love

***Прысвячаю Вользе Бражнік***

*Падчас першай ранішняй кавы*
*з «Кентам» і сэрцам бялюткім*
*на пенцы*
*барыстка інтымна шчабеча аб тым,*
*што адна,*
*а бацькі недзе згінулі ў Штатах.*
*Скідаю даверліва маску,*
*хачу даспадобы быць ёй,*
*смуглатваравай паненцы,*
*Якая нібыта ўкраінка, а я — беларус,*
*у якога няма нават хаты...*

*Шкадую, што кубачак кавы*
*занадта маленькі,*
*і ціха каўтаючы слінкі,*
*«До нового ранку!» кажу*
*і сыходжу з праспекта дварамі,*
*А ў здымнай кватэры гарцую*
*на зэдлі крывой*
*ля блакітнай ялінкі,*
*Нібыта кульнулі знянацку на голаў мне*
*збан з вугалямі...*

***Чарнігаў,***
***снежань, 2021 г.***



Фота Pexels

### Трансцэндэнтальнае

*Галава мая быццам вялізная*
*куля зямлі,*
*Унутры — дзевяноста дзевяць*
*чырвоных балонікаў.*
*Цешыўся магмаю слоў я,*
*а сам не заўважыў, калі*
*Вырас з зацыраваных матуляй*
*дзіцячых штонікаў.*

*Пастаю на абрыве,*
*хачу, каб дакладна адзін,*
*Каб нікога наўкола,*
*каб неба ляцела мяцеліцай,*
*Пажадаць што сабе ў найгарачэйшую*
*з гадавін?*
*Толькі вось жа душа мая*
*зноўку жартуе і цвеліцца.*

*Дакрануцца б да тысячаў многіх*
*далёкіх сяброў,*
*Да пяшчотных усмешак*
*каханак і невымоўнага*
*поўнага сэнсаў ці проста абсурду*
*і дзікіх звяроў*
*і забытых пахаў аеру і нечага*
*больш, чым галоўнага.*

*То няхай, сёння можна і так,*
*пастаю, пагляджу,*
*Як са жмені пігулкі-прынады*
*схілам прасыплюцца...*
*Што яшчэ я змагу, што яшчэ я,*
*напэўна, скажу —*
*Жыў як жыў, не па волі,*
*а па законе транскрыпцыі.*

*А балонікі тыя чырвоныя,*
*што ў галаве,*
*Быццам сальса, круцяцца*
*з болем маім і ўспамінамі,*
*А як прыйдзе бязлітасны князь мой,*
*няхай пазаве*
*У дарогу... яму адкажу:*
*«Я гатовы, вазьмі мяне!».*

***Чарнігаў,***
***26 студзеня 2022 г.***

### За дзень да вайны

*Па трасерах рваных*
*пульсуючых ліній*
*белых, чырвоных і сініх...*
*вяртаецца час наш*
*у павуцінні*
*вулак і грукату ботаў каваных*
*па бруkаванцы, па крыку,*
*па згубленых фотках каханых...*
*Бачыш, за небам халодныя дрэвы —*
*нашыя цені, напаўжывыя?*
*Просяцца ў бітву, а ты?*
*Кажаш пра жоўтыя тэпці,*
*якія дакладна згараць у агні,*
*як і я, як і ты, як яны...*
*Белыя лініі, сінія лініі,*
*срэбра на дрэвах...*
*куля ў грудзях*
*жах...*

***Моршын,***
***23 лютага 2022 г.***

***

*Чорны дзень прынясе чорны снег,*
*каўтунамі сплятаючы нервы...*
*Мне б квіточак на Ноеў каўчэг,*
*хоць у грыўнях,*
*ці ў злотых,*
*ці ў еўра!*

*Ды хіба ты ўцячэш ад вайны —*
*яна ў сэрцы, у пальцаў трымценні...*
*Штоноч бачыш крывавыя сны,*
*а на раніцу — мёртвыя цені.*

*А да раніцы — стос цыгарэт*
*адлятае задушлівым дымам*
*у нябёсы, дзе шлейфы ракет*
*ад Чарнігава ажно да Крыма.*

*Не, не будзе квітка ў нікуды,*
*аж да часу маскальскай паразы.*
*І мае застануцца сляды*
*з Украінаю — ненькаю разам.*

***Івана-Франкоўск,***
***25 лютага 2022 г.***

***

*Усё было ўжо...*
*ранні сакавік*
*і крокусаў адчайнае паўстанне,*
*у небе шэрым зноў гусіны крык*
*у Памераніі пад ранне...*
*Усё было ўжо...*
*акрамя віны*
*за тое, што цяпер не ў Украіне*
*усё было тут*
*акрамя вайны*
*таму і кроў зягрнулася*
*і стыне*

***Schloss Bröllin,***
***4 сакавіка 2022 г.***

### Веру

*Віслы людскія, Дняпры і Дунаі*
*горам сплываюць, вірую адчаем,*
*ад Пшэмысля да Катавіцы і Вавы*
*Гальфстрымам крывавым...*

*Ракеты на голавы, бомбы і міны...*
*Грыміць Украіна, стаіць Украіна,*
*цэрквы гараць, але Бог ёсць у сэрцах,*
*бітва за волю — да смерці!*

*У пекле пажараў, у сажы і дыме —*
*Мая Украіна, другая радзіма.*
*Зламаем хрыбет ашалеламу зверу,*
*разам, з надзеяй і верай!*

***Schloss Bröllin,***
***9 сакавіка 2022 г.***



Уладзімір ВАСЬКО

# Бляшанка



Фота letz.pro

З лесу, які літарай «Г» абступае дачныя ўчасткі, з каляскай, загружанай тонкімі галінамі-дровамі, якраз на заломе гэтай жывой літары высунуўся Іосіф Кашавэла. Ён глянуў налева і ўбачыў на лаўцы, усталяванай побач з «катэджам», знаёмага дачніка, ні імя, ні прозвішча якога ён не ведаў — так проста пры сустрэчы віталіся, мімаходзь перакідваліся асобнымі словамі, кшталту такіх, як і што расце на ўчастку.

Было гэта дваццатага красавіка 2021 года. Лес яшчэ не апрануў зялёнай вопраткі, але ляшчына ўжо зазеленела. Дуў халодны вецер — і Кашавэла падумаў: «От, прыцягну дровы і сагрэюся самаробным вінаградным віном». А тут падвярнуўся пад руку гэты знаёмы дачнік — няблага. Кашавэла спыніўся і памахаў рукой — той адказаў узаемнасцю, падняўся і пакіраваў да веснічкаў. Кашавэла сцягнуў каляску з дарогі ўбок, да лесу, і пакрочыў яму насустрач. Паціснулі адзін аднаму рукі.

— Слухай, — прамовіў Іосіф. — У мяне ёсць самаробнае віно. Ты не супраць, калі я прынясу сюды бутэльку?

— Абсалютна не.

— Чакай.

Кашавэла зацягнуў дровы на ўчастак, скінуў у прымітыўную падпавесь, там паставіў і каляску, а сам палез у падвал і з трохлітровага слоіка наліў у бутэльку халоднага віна. Калі вылез на паверхню, схамянуўся: «Чорт яго ведае — гэтага Малюгіна: ці ёсць у яго чаркі і закусон? На ўсякі выпадак захаплю і іх, каб пасля не вяртацца». Малюгінам Іосіф абзываў свайго знаёмага з прычыны невысокага росту.

Малюгін сядзеў на лаўцы і чакаў.

— Тут будзем выпіваць ці ў катэджы? — спытаў Кашавэла.

— Тут замерзнем. Палезем у сярэдзіну.

— Але я люблю любавацца лесам.

— Нічога. Палюбуешся ў наступны раз, — настаяў на сваім Малюгін.

Дзверы ў драўляную прыёмную-гасцінную былі адчынены, а з яе ў залу ўвогуле не было дзвярэй. Сама гасцінная нагадвала дашчаты туалет, распілаваны ўпоперак напалавіну. Нагнуўшыся, па чарзе ўпрыцік улезлі ў памяшканне. Малюгін падсунуў госцю напалавіну паламаную скрынку, прыдатную пад бульбу, і прапанаваў сесці. Кашавэла сеў — скрынка заштрашчала.

— Зараз цвікоў наганю ў задніцу.

Тады Малюгін накінуў на скрынку нейкі стары заношаны лахман. Сядзець стала ямчэй.

Малюгін дастаў з залы нізкую, невялічкую табурэтку і паставіў пасярэдзіне гасціннай, а сам сеў на перавернутае ўгору дном пластмасавае вядро так, што ногі былі ў гасціннай, а тулава ў зале.

Кашавэла дастаў з пакета бутэльку віна, дзве палоскі хлеба і два ломцікі каўбасы. Адну чарку падсунуў бліжэй да Малюгіна, другую — да сябе. Разліў. Чокнуліся. Перакулілі.

— Слабое, — расчаравана працадзіў Малюгін.

— А што я зраблю? Якое ўдалося…

— З парэчкаў не пробаваў гнаць?

— Не.

— Я адзін раз зрабіў. Паскудства. Думаў, атручуся. Усё выліў на зямлю.

— Можа, не ўмееш рабіць? — папракнуў Кашавэла гаспадара.

— Можа, і не ўмею. Але рабіў па рэцэпце, які выпісаў з кнігі. І за кнігу ў магазіне аддаў дваццаць рублёў. Толькі адны расходы. Ніякага толку.

— Рэцэпты бываюць фальшывыя. Не ганяйся за імі.

Кашавэла, не ўстаючы, агледзеў памяшканне. У зале было цемнавата, але сёе-тое ўдалося разгледзець: у кутку стаялі граблі, вілы, рыдлёўка, каля сцяны на двух цаглінах ляжала вузкая дошка.

— На чым ты адпачываеш, калі заморышся?

— На гэтай дошцы.

— З яе ж можна ўпасці, як будзеш варочацца.

— Я ляжу толькі на спіне і стараюся не круціцца.

— Дзе ты прыдбаў такі катэдж? — спытаў Кашавэла.

— Зяць аднекуль прыцягнуў.

— Я не разбіруся — гэта жалезны кузаў-буда ад якой машыны ці спецыяльна зварaная скрыня для цябе, бляшанка?

— Я і сам не ведаю. Прыцягнуў зяць, кінуў і сказаў: «Карыстайся».

— І падмурка няма.

— А ён і не патрэбны.

У бляшанцы на ўвесь рост таксама нельга было ўстаць, перамяшчацца ўдавалася толькі прыгнуўшыся.

— У мяне ўсяго толькі тры соткі, — працягнуў размову Малюгін. — Ва ўсіх па шэсць, а ў мяне — тры. Начальнік кааператыва Мікалай Борыс аднойчы кажа: «Калі хочаш, бяры гэтую рэшту — вуглавую палоску. Усе ад яе адмаўляюцца». Я і ўзяў. І ці варта тут будаваць які цагляны ці драўляны домік? Дастаткова і такой бляшанкі.

— Яно то так… Празмерна турбавацца не варта… Вось мы чаркуемся, чалавек, з табой, а я нават не ведаю, як цябе зваць.

— Жора. Альбо заві проста — Жаржэта. Так мяне называе жонка.

— А прозвішча?

— Власаў.

— Власаў?! Здраднік Радзімы?

— Ніякі я не здраднік. Аднафамілец. Ведаеш, колькі Власавых у Расіі — больш, чым зорак на небе.

— Дык ты хто — расіянін?

— З Пензенскай вобласці. Служыў тут у Паўднёвым гарадку. Закахаўся ў мясцовую дзяўчыну, ажаніўся — і з маладых гадоў жыву ў Лідзе. А зараз мне восемдзесят.

— Мне таксама.

— А цябе то як зваць? — запытаў Жаржэта.

— Мяне? Іосіф. Але жонка таксама называе па-іншаму — Юзуня. Зняважліва. Аднак я прывык ужо. У мяне, як бачыш, смуглявы твар. Дык калі як завядзёмся сварыцца — яна выкрыквае: «Кітаец ты!».

Мужчыны, каб крыху выпрастаць спіны, высунуліся на двор. Пры драцяным плоце ў пяску на суседнім участку капашыліся куры. Яны няспынна сакаталі, выводзілі нуднае «ко-ко-ко», а два пеўні, па чарзе ўзлятаючы на казлы для распілоўкі дроў, гучна кукарэкалі і перашкаджалі дачнікам размаўляць.

— Чаго яны так моцна гамоняць? — запытаў Юзуня.

— Гаспадыня іх корміць да адвалу, ну і прыход вясны адчулі.

— Турні ты іх.

Жаржэта стукнуў нагой аб сетку і выкрыкнуў:

— Акыш!

Куры і пеўні крыху адбегліся.

— Аддаў бы ты суседцы сваю бляшанку на куратнік, а сабе збіў бы з дошак новы домік.

— Позна ўжо. На мой век хопіць і гэтай бляшанкі…

Неўзабаве ў паветры пахарашэла, парахманела, пацяплела. На паўднёвы край неба насунулася цёмная хмара, недзе далёка загрукатаў гром. Юзуня занепакоіўся, але нічога не сказаў.

— Мяне іншы раз запрашае Фэлік, — прамовіў Жаржэта. — Нядаўна прыехаў з літровай папяровай банкай віна і таксама паклікаў. Толькі папярэдзіў: «Можа наляцець жонка, дык ты скажы, што гэта ты мяне частуеш». Я даў згоду. І праз якой паўгадзіны жонка Фэліка, сапраўды, наляцела: «Алкашы! Людзі працуюць, а яны вось чым займаюцца». Натуральна, я, як і дамаўляліся, усю віну ўзяў на сябе: «Гэта я рашыў пачаставаць Фэліка. Хочам адзначыць пачатак дачнага сезона». — «Я вам зараз пакажу пачатак сезона, уласаўцы вы недабітыя! Навошта ты, Уласаў, спойваеш майго мужа?! Яй-богу, зараз пабягу і калом памалачу ўсе вокны ў тваім катэджы!» — «Малаці», — адказаў я.

— Дык у тваёй бляшанцы ж няма вокнаў, — уставіў слова Юзуня.

— А што ты дурной бабе скажаш. Няхай бяжыць, няхай грукае калом па жалезе, нічога з ім не станецца.

Між тым хмара насоўвалася ўсё бліжэй і бліжэй. Маланка рэзка перакрэслівала неба і падала долу.

— Давай пяройдзем у мой домік, — прапанаваў Юзуня. — Мой драўляны, там спакайней. А ў гэты можа бабахнуць.

— Я кожны раз ад навальніцы хаваюся сюды — і нічога, ні разу не стрэльнула.

— Усё-такі… Пры жаданні я яшчэ нацаджу бутэлец вінаграднага…

— Ну раз так настойваеш, то пайшлі.

Мужчыны згрэблі з табурэткі рэшткі правіянту, узялі чаркі, бутэльку з недапітым віном і пакрочылі па прылясной дарозе. Домік Юзуні мясціўся непадалёку — цераз сем дач ад Жаржэтавай. Жаржэту ўразіў ганак з пафарбаванымі ў блакітны колер перыламі, прыгожыя, узорчатыя вокны веранды. У самым доміку было не вельмі чыста і прыбрана. Сцены, праўда, абклеены здатнымі белымі шпалерамі. У адным кутку над ложкам красаваліся вырэзкі з нямецкага часопіса мод з выявамі прыгожых жанчын, у другім па абодва бакі — геаграфічныя карты: «Палітычная карта свету», «Саюз Савецкіх Сацыялістых Рэспублік», «Беларуская ССР». За канапай на высокіх ножках стаяў стары тэлевізар, які не працаваў, а проста знаходзіўся для аздаблення пакоя. На канапе валяліся старыя газеты, кнігі, цэлафанавыя мяшочкі. Юзуня адсунуў усё ўбок і прапанаваў Жаржэту сесці, а сам прыставіў да канапы невялічкі столік — звычайны ліст фанеры, прыбітай цвікамі да арэшынавых ножкаў. Мужчыны расклалі і расставілі прынесенае і працягнулі палудзень. Юзуня разліў вінаграднае па чарках. Нешта Жаржэта крыху замарудзіў са сваёй дозай — і Юзуня прыспешыў яго:

— Давай, братове, а то зараз як бабахне — не паспееш і дапіць.

А над лесам, над дачамі на ўсю моц разбушавалася навальніца. Гром лупіў то тут, то там, па вокнах гучна барабанілі буйныя кроплі дажджу.

— Гэта ж трэба — так рана загрымела… Ніколі, здаецца, такога яшчэ не было, — загаманіў Жаржэта. — Мусіць, не зусім добра — гром на голае голле?

— Чаму на голае? Ляшчына ўжо зазеленела.

— Ляшчына, а астатнія дрэвы?

— Нічога, затое ўсё будзе добра расці, — заспакоіў яго Юзуня.

— А што расці? Яшчэ ж нічога не пасаджана, акрамя зімовага часнаку.

— А трускалкі, а крапіва… Я люблю суп з маладой крапівы. Кажуць, у ёй ёсць усе элементы з табліцы Мендзялеева.

— Фу, — надзьмуў вусны Жаржэта, — ненавіджу гэтай пякучкі.

— Звараная не пячэцца.

Спакваля бутэлька апусцела.

— Можа, дастаць з падвала яшчэ адну? — запытаў Юзуня.

— Будзе лішняй… Я і так захмялеў, як сабака. Ведаеш, стары… узрост… Ды і дахаты пара ехаць. Праз сорак мінут аўтобус на Ліду.

— Я таксама на гэтым паеду. Няма чаго мне тут рабіць.

Мужчыны паўставалі, вылезлі з-за століка. Юзуня схаваў пустую бутэльку за канапу. Выйшлі на ганак. На поўдні пачало падкасвацца, праясняцца неба. Вялізная цёмная хмара сплывала на поўнач. Апошнія кроплі дажджу яшчэ стукалі па даху, але ўжо не з такой сілай, як упачатку. Паступова ўсё сціхла.

Юзуня пазачыняў дзверы, навесіў замок на веснічкі.

Дарога, па якой яны ішлі і паабапал якой яшчэ ярчэй зазелянела ранняя вясновая трава, прывітала іх прыемнай свежасцю.

— Люблю такую пару, — прызнаўся Жаржэта. — Першыя лісцікі на ляшчыне, першыя бутоны на бярозах — душа радуецца.

— А я люблю, калі ўжо ўсё наўкола пазеленее — у лесе, на дачах, у полі. Люблю суцэльную зелень.

— Каму што…

Неўзабаве яны параўняліся з участкам Власава.

— Ой, ліха! — ускрыкнуў Юзуня. — Няма катэджа!

— Ах, Божа! Што гэта зрабілася?! — усклікнуў Жаржэта.

У роспачы яны сталі і пазіралі ў той бок, дзе яшчэ зусім нядаўна ўзвышаўся на паўтара метра над долам жалезны «катэдж». Для дваіх ста́ла зразумелым: гром размазаў бляшанку Жаржэты па зямлі.

— А што я табе казаў? — заспакоіў разнерваванага Власава Кашавэла. — Не пайшлі б мы ў мой домік, дваім тут нам была б хана…

*25.04.2021*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4 (188), красавік 2022 года

# Трамвай «Кракаў — Буча»



Юлія БЭРЭЖКО-КАМІНСЬКА



Фота graty.me

Зноў ноч, і я зноў не магу заснуць. З аднаго боку ад мяне гарыць Буча, Ірпень, Гастомель, з другога гарыць шматпакутная Чарнабаеўка, дзе жывуць мае бацькі, а за галавой узрываюцца ракеты над Кіевам, Харкавам, Марыупалем, Чарнігавам…

Позныя трамваі, што гуркочуць пад маімі кракаўскімі вуліцамі, штораз выклікаюць самае страшнае дэжавю ў маім жыцці: зямля і сцены ўздрыгваюць — страляюць! Правіла дзвюх сцен! Упасці на падлогу! Заплюшчыць вочы, адкрыць рот!

«Гэта трамвай, дзяўчынка, звычайны трамвай, гэтыя сцены вытрымаюць яго калыванні, нічога не абрынецца, нічога не загарыцца!»…

«Не, пра "(не)абрынецца", "(не) загарыцца" не трэба. Асабліва на ноч. Я не хачу зноў бачыць перад сабой трыццаць коней, якія жыўцом гараць у гастомельскай стайні. Нават коні! Нават коні… Іх таксама трэба было дэмілітарызаваць, дэнацыфікаваць, яны таксама ўяўлялі пагрозу патэнцыйнага членства ў NATO?»

«Добра, забудзем тыя словы. Уяўляй, як вяртаешся дадому — муж са стомленымі, але шчаслівымі вачыма сустракае, абдымае, прыхінае да сябе… Між вамі намагаецца працісніцца Туся — рудая смешная дварняга, якая ад выбухаў хавалася так глыбока пад дошкамі, што ледзьве выбралася адтуль. З чарэшні няўчыць кот Васька. Чарэшня, хоць і не абрэзаная сёлета, але густа аблепленая квеценню — шмат пладоў завяжацца. Вы заходзіце ў дом — ваш, шчаслівы, родны дом, які ўсё перажыў, выстаяў, вытрымаў… Аббягаеце кожны пакой — вяртаецеся ў сваё жыццё, бярэце ў рукі кожную дарагую сэрцу драбніцу, плачаце, дзякуеце Богу, мужу, кожнаму воіну…»

«Я не ведаю, ці ёсць у мяне дом. Ці ёсць у мяне муж… Ужо тыдзень — ніводнае звесткі. Толькі навінная стужка нібы з гарніла самога пекла: чарговая порцыя раструшчанага, спаленага — чорнага-чорнага…»

«Не глядзі навінныя стужкі».

«Як?»

«Неяк».

«А нехта так змог? Бадай, адзін чалавек з усіх сотняў тысяч, мільёнаў украінцаў, якія стаяць у чарзе па PESEL, якія вывезлі з агня сваіх дзяцей, катоў і сабак, купку сумных рэчаў, а ду́шы пакінулі там гарэць, змагацца, выносіць параненых з лініі агня, дастаўляць ежу і лекі тым, хто застаўся?..»

«Ты мусіла выратаваць жыцці дзецям. А яшчэ павінна быць сярод тых, хто вернецца і ўдыхне жыццё ў свае гарады, вёскі, сваю краіну. Хто словам вылечыць параненыя душы, хто разграбацьме тыя руіны, узнімацьме новыя храмы, будынкі і ўзвядзе масты. Хто будзе несці памяць аб тых, хто аддаў сваю плоць і кроў, абы было куды вяртацца жанчынам і дзецям, каб тыя, хто выйшаў на сонца са сваіх бамбасховішчаў, маглі будаваць моцныя, светлыя сцены, паклалі новы дах і павесілі белыя фіранкі. Каб шчанюку было між кім праціскацца».

«Пра шчанюка таксама не трэба. Два тыдні запар кожны дзень, у цемры, прыносячы яму ежу, я бачыла: зноў міса некранутая. Шкада сабаку. І ежы шкада, некранутай. А цемра такая, як ніколі ў жыцці. Быццам святла ўвогуле не існуе. Толькі трывожна кружляе над галавой дрон, нібы гіганцкая металічная аса, нібы ўсёвідушчае варожае вока, прыдзірліва скануючы прастор. Завеш сабаку — не адзываецца. Ведаю: жывы, ведаю, глядзіць у цемру шырока расплюшчанымі вачыма, а выйсці не можа. Ды і мне хочацца зарыцца ў самую глыбокую шчыліну, куды б не далягалі гукі «градаў», дзе б не ўздрыгвалася ў агоніі зямля ад залпаў мінамётаў, дзе б можна было заснуць і ведаць: заўтра мы прачнемся».

«Навошта табе пра гэта думаць цяпер, калі ўсё скончылася? Калі трамвай — усяго толькі трамвай, а не цяжкая артылерыя, не танк, нацэлены ў твае вокны?»

«Не скончылася. Яно са мной, дзе б я ні была. Гэта з маімі роднымі і тымі, пра існаванне якіх не здагадваюся. Я не ведаю, чым вычарпаць з памяці тыя два тыдні ў падвале пад абстрэламі. Увесь дзень вычэрпваю, а вечарам гэты атрутны калодзеж зноў поўны. У кароткіх прамежках паміж баямі мы падлічвалі вынесеныя ў падвал свечкі і запалкі, збіралі ў садзе тонкую шагрэневую скуру снега, разам з леташнім лісцем скамечваючы ў брудныя снежкі, каб растапіць на ваду. Мы ляпілі цудоўныя коржыкі, якія здаваліся смачнейшымі за стравы грузінскай рэстараннай кухні. Перадавалі адно аднаму шмат разоў запараны пакецік чаю. А яшчэ — баязліва падымаліся ў дом і зазіралі ў вокны, каб зразумець, адкуль сёння вецер прынёс чорны атрутны дым. Але гэта была марная справа — клубілася кожны дзень і адусюль. І дымы былі такімі густымі і ўсёабдымнымі, змешваліся з хмарамі,ператвараліся ў хмары, станавіліся нашым небам — жахлівым лютым небам, якое вывяргала агонь і толькі памнажала дымы.

Мы былі маўклівымі сведкамі разгортвання пекла. На нашых вачах напаўняўся агнём суседскі будынак. Ён гарэў асуджана, няўцешна, нібы загадзя ведаючы, што ніхто яго не прыйдзе тушыць. Не будзе сірэн, імклівага разгортвання шлангаў і напоўненых вадой брансбойтаў. Ніхто не будзе намагацца выратаваць дарагія сваім гаспадарам рэчы, якія яны не змаглі ці не паспелі з сабой узяць. Гарэў так ціха, нібы ў маўклівым рэжыме, горда і роўна, чым яшчэ больш падкрэсліваў нашу бездапаможнасць.

Мы, тыя, хто не адну ноч правёў у падвалах, бамбасховішчах, у цесных халодных склепах, напэўна, яшчэ доўга будзем баяцца заснуць. Баяцьмемся прачнуцца. Баяцьмемся жывога агня. Рэзкіх гукаў. Трамваяў, урэшце, пад сваімі вокнамі».

«Які дым найстрашны?»

«А той, які бачыла апошнім над Бучаю. Мы цягнуліся ў калоне эвакуацыйных машын, упершыню за часы вайны пакідаючы сцены свайго дома. Я пачувалася слімаком, з якога жорстка здзерлі ахоўную абалонку. Засталася толькі адкрытая гарачая рана. Здзерлі адным рыўком, без абязбольвальных. У свеце за сценамі нашага дома канала чорная зіма. Пусткамі перад намі стаялі дзясяткі спаленых дамоў. На разбітых дарогах ляжалі расплюшчаныя бляшанкі вайсковай тэхнікі, на ўзбочны тлелі пакінутыя аўтамабілі. Разрабаваныя крамы, скамечаныя, як аркушы паперы, металічныя сцены ангараў… Бруд і попел. І — метал, метал, метал… Я баялася азірацца. І не магла не азірацца. І калі зрабіла гэта ў апошні раз, убачыла маленькую белую пляму нашага горада, над якой падымаўся смалісты дым. Таўшчыня яго была такой, як светлая пляма горада… І недзе там, у той пляме, застаўся мой муж, наш дом, наш сад, наша жыццё, кот і сабака…

Спыніце машыну! Дайце выйсці! Хачу дадому! Нават калі сцены ўпадуць, то зробяць гэта з найвялікшай асцярогай, як стары слон, які не хоча прыціснуць маленькую дзяўчынку, якая карміла яго з рукі. Або як кат, які спачувае ахвяры і выканае сваю працу хутка і бездакорна. Але з машыны выйсці нельга. Не дайсці. Не выжыць…»

«Дымы не будуць вечнымі. Вецер развее, дождж залье…»

«Я ўжо гэта чула. Калі ў Чарнаўцах, трапіўшы ў клапатлівыя чулыя рукі, мяне адвялі ў краму адзення. Стаю між шэрагаў, гляджу на светлыя стосы кашуль і блузак і не магу зразумець: навошта мне гэта? Што з імі рабіць? Гэта для мірнага жыцця. А цяпер — вайна. Да мяне прыраслі цёплыя штаны, якія не здымала нават ноччу, куртка, старыя чаравікі са зламаным замком… Навошта мне блузка? Навошта сукенка? Навошта шалік? Я пакінула ўсё, што мела. Усе свае кара́лі ў разбіных драўляных куфрах, басаножкі на абцасах, узвеўныя шаўковыя сарафаны. І яшчэ больш. Усё, над чым працавала, што стварыла, што несла ў гэты свет. Дзясяткі гадоў я ткала працяг свайго ўнутранага свету, высаджваючы ружы пад аркаю, вырошчваючы яблыні, абжываючы кожны куточак сваёй прасторы любоўю і клопатам. У гэтым свеце восеньскімі вечарамі трашчалі дровы ў каміне, летам на тэрасе астывала мятная гарбата, разлітая ў кубкі сябрам, вечарамі гучала фартэпіянная музыка, а за зачыненымі дзвярыма малога пакоя, запоўненага кнігамі і карцінамі дачкі, пісалася паэзія. Хто я цяпер? Дзе я цяпер? Куды я цяпер? Хіба можна скласці ў валізу свой свет? Але мне кажуць: "Купі сукенку. Пасля зімы будзе лета. Як жа без сукенкі?"»

«Табе пашанцавала! Прынята людзьмі, якія сталі вам зямнымі анёламі. Яны асцярожна глядзяць у вочы і спрабуюць зразумець: што сказаць, каб не параніць неабачліва? Яны аддаюць свае рэчы і дзеляцца хлебам. Знаходзяць веласіпед і ноўтбук і паказваюць свой горад, у які непазбежна заходзіць вясна».

«І ад усяго гэтага, ад кранальных слоікаў з супамі, якія польскія жанчыны гатуюць украінкам і зносяць з усіх канцоў горада ў цэнтры дапамогі, ад вывешаных па Кракаве жоўта-блакітных сцягоў, ад размешчаных у крамах скрыняў для збору прадуктаў, ад гэтых няўмелых "будь ласка" з прыкметным акцэнтам хочацца плакаць. Абняць кожнага і плакаць. Але я не плачу. Не магу ўжо. Бо душа выйдзе з тымі слязьмі. Бо моцнай трэба быць. Бо дзеці на мяне глядзяць. Бо яшчэ столькі нашых сядзяць у падвалах і не плачуць! Начуюць у акопах і не плачуць. Дзівяцца на руіны сваіх дамоў і не плачуць. Хто я такая, каб дазволіць сабе плакаць?»

«Плач, дзяўчынка, плач… Яшчэ будзе час сціснуць вусны, закасаць рукавы і сухімі вачыма вышукваць сярод абломкаў будучыню. А цяпер — плач. За ўсіх, хто ў падвалах. Хто ў акопах. Хто ідзе з катом і сабакам у невядомасць. За тых, хто застаўся. За тых, каго няма каму аплакаць. І за тых, хто выбраў усе свае слёзы, так і не знайшоўшы паратунку. А потым, калі ўляжацца найменшы дым, калі з'явяцца новыя колеры, калі нішто не палохацьме птушак будаваць новыя гнёзды, ты сядзеш у свой трамвай, і ён павязе цябе да самага дома — у ружах на арцы, з кнігамі на паліцы, з бронзавым падсвечнікам на фартэпіяна. І цябе сустрэне са стомленымі, але шчаслівымі вачыма муж, і сабака паміж вамі праціснецца, і кот будзе прасіцца на рукі, і чарэшня заквітнее — густа-густа, каб і вашай сям'і ўдосталь урадзіла, і кожнаму, хто пройдзе міма і зірне на яе».

«Вязі мяне, трамваю, вязі…»

***Пераклаў з украінскай А. П.***



Наталля РУСЕЦКАЯ

# Пад дзіравым парасонам



Рынак у Бардзееве. Фота аўтаркі

Была сярэдзіна бясснежнага і даволі сонечнага лютага. Зімовыя канікулы — добрая нагода для вандроўкі. Гэтым разам мы вырашылі наведаць паўночна-ўсходнюю частку Славаччыны. Зімовыя дні кароткія, шлях запланаванай вандроўкі ляжаў праз горы, што для мяне, раўніннай жыхаркі, не вельмі прывычна, таму ехаць вырашылі няспешным двухдзённым маршрутам, каб па дарозе мець час на знаёмства з цікавымі мясцінамі яшчэ і ў Польшчы.

Дарога пасля зімы адразу за горадам нагадала анекдот, дзе разам са снегам растаў і асфальт. Трэсла нас і падкідвала на выбаінах, ямінах і каляінах, хоць хутчэй за сорак кіламетраў на гадзіну я і не спрабавала разганяцца. Але свяціла ўжо амаль вясновае сонейка, і настрой нам цяжка было сапсаваць якасцю дарожнага пакрыцця.

Вандроўка сама па сабе заўсёды для мяне радасць і неверагодная ўзрушанасць. Нейкая старажытная кроў намадаў адгукаецца. Калісьці я жартавала, што Саламея Русецкая дэ Пільштын была, магчыма, маёй пра-пра-бабкай: падумаць толькі (!) — жанчына самастойна (часам з малымі дзецьмі) ў XVIII ст. праехала наскрозь усю Еўропу — ад Канстантынопаля да Пецярбурга. А потым яшчэ ўсе вандроўкі свае і прыгоды запісала. Так і я, вырашыла збіраць свае нататкі з усіх падарожжаў, без якіх не вытрымліваю доўгі час. Калі не маю магчымасці ехаць, то пачынаю хаця б планаваць і марыць. Раскладаю і разглядаю мапы, чытаю даведнікі, якія займаюць у маёй кніжнай шафе асобную паліцу. Іншым разам блукаю вачыма па мапе Еўропы, што вісіць на сцяне. Некалькі атласаў і мапаў у мяне заўсёды ляжыць у машыне. Не аднойчы яны мяне ратавалі, калі сучасныя прылады адмаўляліся ад супрацоўніцтва і электрычны голас паведамляў пра тое, што навігатар страціў сувязь са спадарожнікам...

Першым прыпынкам у нашай вандроўцы быў Білгарай. Даўно збіраліся паглядзець рэканструкцыю міжваеннага мястэчка, створаную паводле праекту архітэктара Рудольфа Бухаліка. Пра гэтую ідэю я даведалася амаль выпадкова, і яна мяне ўразіла і захапіла. Мястэчка размясцілася на лукавіне Белай Лады. Тут плануецца стварыць турыстычны і культурны цэнтр, з музеямі, гатэлямі, гастранамічнымі і гандлёвымі кропкамі. Першымі ў мястэчку ўзніклі рэпліка дома Ісаака Зінгера, дзе цяпер дзейнічае музей, і будынак драўлянай сінагогі. У часы Другой сусветнай вайны ў Польшчы былі знішчаныя ўсе драўляныя сінагогі, пашкоджана альбо зруйнавана большасць мураваных. У Білгараі ж вырашылі стварыць рэпліку адной з найпрыгажэйшых драўляных сінагог Еўропы, якая ў сярэдзіне XVII ст. знаходзілася ў Воўпе.

Вось так нечакана на адлегласці каля 85 км на поўдзень ад Любліна я «вяртаюся» ў Беларусь. Цяперашняя вёска Воўпа на беразе Ваўпянкі ў Ваўкавыскім раёне, а колішняе мястэчка на Наваградчыне ў межах Вялікага Княства Літоўскага знаходзілася ва ўладанні князёў Гальшанскіх, Сапегаў, Плятэраў. Тут да часоў апошняй вайны было ажно тры помнікі драўлянага сакральнага дойлідства: царква, касцёл і сінагога. Да нашых дзён захаваўся толькі барочны касёл Яна Хрысціцеля з драўляным алтаром XVII ст., фундатарам якога быў, верагодна, Казімір Сапега, а сам будынак, які ўзнік яшчэ ў семідзясятыя гады XV ст., шматкроць перабудоўваўся, апошні раз — у 1773 г. Сёння гэта самы стары на тэрыторыі Беларусі драўляны храм. Царква і сінагога згарэлі падчас вайны. Згадку пра царкву і боль ад спусташэння знаходзім у вершы «Воўпа» нашай геніяльнай паэткі Ларысы Геніюш:

*Няма ўжо вулак прывычных.*
*Цэркаўка-свечка растала,*
*як з воску.*
*Вораг мястэчка*
*вайною паншчыў,*
*пакінуўшы вёску.*

Габрэйская гісторыя Воўпы захавалася ў літаратурнай спадчыне Элізы Ажэшкі. Адзін з герояў пісьменніцы — Гедаль з аднайменнага апавядання — жыў з сям'ёй менавіта ў Воўпе. У творы, напісаным у 1888 г., адгукаецца рэха пажараў, якія неадназова руйнавалі мястэчка ў мінулым. Адзін з самых страшных здарыўся ў 1869 г., у ім згарэла значная частка габрэйскіх дамоў, крамаў, іншых будынкаў, але сінагога тады ўцалела. Не перажыла сінагога пажараў Другой сусветнай вайны: праўдападобна, будынак быў знішчаны ў першыя месяцы акупацыі падчас адной з бамбардзіровак.

Царкву пасля вайны адбудавалі, а сінагогу, мінуць якую нельга было, «не затрымаўшы вока і сэрца на ёй», як пісалі калісьці на старонках «Нашай Нівы», можна ўбачыць цяпер толькі ў польскім мястэчку Білгарай. На месцы бажніцы ў Воўпе сёння знаходзіцца мемарыяльны сквер з помнікам ахвярам вайны, на ім няма ані слова пра больш за дзевяць сотняў габрэяў, якіх пераганалі з ваўпянскага ў ваўкавыскае гета і да канца 1942 г. усіх забілі. Пра габрэйскую частку гісторыі Воўпы, якая пачалася яшчэ пры Сапегах, нагадваюць адно старыя, урослыя ў зямлю, мацэвы на закінутым кіркуце.

Начаваць мы трапілі ў польскую вёску з дзіўнай назвай Каманьча. Нічога агульнага з індзейцамі паселішча не мае, але лёс мясцовага насельніцтва таксама быў даволі пакручасты. Падчас Першай сусветнай вайны Каманьча апынулася на лініі фронта. У перыяд з лістапада 1914 г. па май 1915 г. мясцовасць шмат разоў пераходзіла то ў рукі расійскіх, то аўстра-венгерскіх войскаў. За першыя чатыры месяцы 1915 г. аўстра-венгерская і нямецкая арміі страцілі ў баях па лініі Карпатаў больш за 700 тысяч забітых і палонных. Загінулых і раненых, якія паміралі ў дарозе на лячэнне, звозілі фурманкамі і хавалі каля чыгуначных станцый Каманьча і Каманьча-Летніска, дзе спецыяльнымі вайсковымі аддзяленнямі былі створаныя цвінтары. Яшчэ і цяпер на зямлі можна заўважыць узгоркі насыпаў над брацкімі магіламі, хоць драўляныя крыжы, пастаўленыя больш за сто гадоў таму, паспелі збуцвець. Дакладных звестак пра страты расійскай арміі не захавалася, як і не захаваліся месцы пахаванняў, пра якія само расійскае войска не надта клапацілася, а мясцовае насельніцтва, змучанае вайной, не мела на тое ні сіл, ні патрэбы...

Раніцай мы паспелі агледзець храмы Каманьчы і пераехалі на славацкі бок. У гарах яшчэ ляжаў снег, і нам пашчасціла пабачыць даволі маляўнічыя зімовыя краявіды ў асляпляльных промнях сонца ў бязхмарны лютаўскі дзень. Траса Люблін-Прэшаў ляжыць на амаль прамой лініі, але мы зрабілі невялікае кола, бо зацікавілі нас Медзілаборцы, у якіх знаходзіцца музей Эндзі Уорхала. Чаму раптам у невялічкім славацкім мястэчку ў Карпатах апынуўся музей амерыканскага мастака? Таму што менавіта адсюль, з маленькага сяла Мікова непадалёк ад Медзілаборцаў бярэ свой пачатак гісторыя сям'і мясцовых лемкаў, якія выехалі ў пачатку XX ст. на заробкі ў ЗША.

Перад будынкам мясцовага Дома культуры ў Медзілаборцах, у якім месціцца музей, стаіць скульптура Эндзі Уорхала: бронзавая фігура мастака пад парасонам. І тут мяне зноў даганяе мая Беларусь. І прад вачыма ўсплывае скульптура Дзяўчынкі з парасонам на рагу Міхайлаўскага скверу ў Менску. З парасонамі ў мяне добрыя адносіны так і не склаліся. Я часцей іх забываюся ці губляю. Яны найчасцей мне проста перашкаджаюць: займаюць рукі, засланяюць далягляд і неба — я гэтага не люблю. Хоць сама ідэя парасона мне падабаецца тым, што стварае рамантычны і вельмі ўтульны вобраз. Менавіта гэтая затуленасць прываблівае: парасон нібыта ахінае цябе і засланяе ад дакучнага даждж. А помнікам няма сэнсу хавацца ад непагадзі, таму парасоны ў іх — «дзіравыя». Каркас парасона ёсць, а самога купала — няма. Праз такі парасон заўсёды відаць неба і ўсё наваколле. Эндзі Уорхал пазірае праз дзіравы парасон на зямлю сваіх продкаў, зямлю, якая захавала памяць пра тых, хто калісьці тут жыў, а цяпер вітае «вяртанне» нашчадкаў і іхнай творчасці.

Наступным прыпынкам у нашай вандроўцы быў Бардзееў. Мястэчка маленькіх, нібы цацачных, гатычных дамкоў у ружовай смузе лютаўскага надвячорка здавалася зусім казачным. Месцамі казка была не толькі прыгожая, але і страшная. На рынку з велічным гатычным касцёлам св. Эгідзія і невялічкім будынкам ратушы стаіць і цёмная фігура ка́та, захаваўся таксама рэнесансавы дом, у якім жыў кат, а паводле легенды ў даўнія часы існавала тут і школа гэтай старажытнай прафесіі. Сёння бронзавы кат, што трымае ў руках сякеру над пяньком, нагадвае пра суровыя сярэднявечныя пакаранні, якім падвяргаліся тут парушальнікі закона. А ў гарадскім архіве захоўваецца кніга з запісамі жорсткіх вырокаў, магчыма, не заўсёды справядлівых. Невыпадкова ж з'явілася ў славакаў прымаўка: «Барані нас, Божа, ад бардзееўскай справядлівасці!».

А зусім побач з казачным мястэчкам ёсць цудоўнае месца для адпачынку: Бардзееўскія купелі (сёння ўжо ў адміністрацыйных межах Бардзеева). Упершыню мінеральныя крыніцы згадваюцца ў дакументах венгерскага караля Бэлы, а ўжо з пачатку XVI ст. за купанне ў бардзееўскіх крыніцах пачалі браць аплату, з XVIII ст. курорт вітаў гасцей круглы год, не толькі ў летні сезон. Сярод наведнікаў пераважалі прадстаўнікі польскай і венгерскай шляхты, а таксама манаршых сем'яў Еўропы. У розныя часы адпачывалі ў Бардзееўскіх купелях такія вядомыя асобы, як Іосіф II Габсбург, Марыя Луіза Аўстрыйская (другая жонка Напалеона Банапарта), расійскі імператар Аляксандр I, Лізавета Баварская. Сёння тут знаходзяцца санаторна-аздараўленчыя комплексы з басейнамі, гатэлі, вілы, гасцявыя дамкі і найстарэйшы ў Славаччыне музей драўлянага дойлідства, які знаёміць наведнікаў з архітэктурай, культурай і рамёствамі рэгіёнаў Шарыш і Земплін.

Лячэбная мінеральная вада, як вядома, ёсць і ў Беларусі, а некаторыя крыніцы існавалі, магчыма, яшчэ ў XVIII ст., але мы пра іх вельмі мала ведаем. А бывае, што цікавыя гісторыі, як і лячэбныя курорты, можна знайсці не ў далёкім замежжы, а зусім побач. У 1909 г. на беразе Свіслачы непадалёк ад сённяшняй беларускай сталіцы менскі лекар Іван Здановіч купіў сабе загарадны дом і невялікі надзел зямлі. Побач з домам ён заўважыў крыніцу, якая не замярзала нават узімку, а вада з яе мела крыху саланаваты смак. Ваду даследвалі ў лабараторыях Пецярбурга і выявілі ейныя лекавыя ўласцівасці. Неўзабаве Здановіч адкрыў невялікую прыватную лячэбніцу. Потым за ўласныя грошы пабудаваў на чыгунцы платформу, дзе пачалі спыняцца цягнікі Менск-Вільня. Сёння гэта чыгуначная станцыя Ждановічы, а на месцы невялічкай прыватнай лячэбніцы доктара Здановіча знаходзіцца санаторый Крыніца. Чаму літара «З» змянілася ў «Ж» і чаму гэтая шчодрая на таленты зямля ўпарта заціраe памяць пра сваіх найлепшых сыноў?..

Апошнім, самым паўднёвым пунктам нашага лютаўскага падарожжа быў Прэшаў. Пад парасонам ужо амаль веснавога чыстага неба з высокім сонцам было вельмі прыемна прайсціся па вулках старога горада. Цэнтральная вуліца гістарычнага цэнтра мае вельмі лагічную і ў той жа час нетыповую назву — Галоўная (Hlavná). У горадзе захаваліся архітэктурныя помнікі, якія сведчаць пра былую прысутнасць у ім прадстаўнікоў розных веравызнанняў і народаў. Гатычны касцёл св. Мікалая, евангелісцкая кірха св. Троіцы ў стылі позняга рэнесансу, грэка-каталіцкая катэдра св. Яна Хрысціцеля, сінагогі. А ў самым цэнтры старога горада, на рынку, стаіць палац венгерскага магнацкага роду Ракачы. Чаму сярод іншых помнікаў я вылучыла менавіта гэты? Гарадская рэзідэнцыя належала ў свой час Францішку II Ракачы, адзін з сыноў якога — Юзаф, заляцаўся да Саламеі Русецкай, лекаркі і вандроўніцы з Навагрудка. Вось такім дзіўным чынам пераплятаюцца часам гісторыі краін, народаў і асобных людзей.

...Гэты тэкст я пачала пісаць з суму па Славаччыне, у якой не была ўжо амаль два гады праз пандэмічныя абмежаванні. Я марыла пра вандроўкі, планавала новыя маршруты, хаця б па Польшчы. У хуткім часе зусім нечакана дарогі прывялі мяне ў Ланьцут і Хрубяшоў, праз Вайславіцы і Ухане. Гэтыя мясцовасці я наведвала ноччу — а таму, можна лічыць, нічога і не пабачыла. Чакаць, пакуль узыдзе сонца, у мяне не было часу, бо над суседняй Украінай раскрыўся неспадзявана чорны парасон вайны, які не ахоўваў і не бараніў. Наадварот, на мірных жыхароў паляцелі ракеты і бомбы. Трэба было як хутчэй вывозіць людзей. Здавалася, што такое немагчыма ў XXI ст. І хочацца верыць, што гэта ненадоўга. А пасля перамогі я абавязкова хачу праехаць гэтымі маршрутамі яшчэ раз, вярнуцца, каб убачыць тое, што схавана было ў цемры вайны і начы. І няхай вернуцца таксама мільёны ўцекачоў на сваю зямлю, свабодную, мірную і незалежную.

## Паэзія 53 краін — у падтрымку Украіны

«Паэзія для Украіны» — пад такой назвай выйшаў англамоўны зборнік вершаў 254 аўтараў, прыбытак ад продажу якога будзе перададзены на дабрачыннасць — ва ўкраінскі крызісны фонд.




«Ад паэтаў-лаўрэатаў розных прэмій да новых паэтаў, якія ўпершыню даследуюць слова; ад выкладчыкаў ВНУ, акцёраў, псіхолагаў, мастакоў і журналістаў да студэнтаў, хатніх работнікаў, бібліятэкараў, выкладчыкаў; ад старшакласнікаў да пажылых людзей — «Паэзія для Украіны» аб'ядноўвае неверагодных творцаў з 53 краін, якія падтрымліваюць Украіну!», — напісана ў анатацыі кнігі.

У зборніку прадстаўлены аўтары Албаніі, Аўстраліі, Бахрэйна, Бангладэш, Бельгіі, Босніі і Герцагавіны, Балгарыі, Вялікабрытаніі, Канады, Каба-Вэрдэ, Францыі, Грузіі, Германіі, Грэцыі, Ганконга, Індыі, Інданэзіі, Ізраіля, Італіі, Ямайкі, Японіі, Косава, Курдыстана, Літвы, Малаві, Мальты, Маўрыкіі, Мексікі, Марока, М'янмы, Непала, Нідэрландаў, Новай Зеландыі, Нігерыі, Паўночнай Македоніі, Пакістана, Філіпін, Польшчы, Ірландыі, Румыніі, Сербіі, Шатландыі, Сінгапура, Паўднёвай Карэі, Іспаніі, Швейцарыі, Тайланда, Украіны, ЗША, Узбекістана, Уэльса і Зімбабвэ.

## Вершы на сцяне

Кожны дзень ад змяркання да 2 гадзін начы ў Кракаве на Галоўнай плошчы можна прачытаць вершы на польскай і англійскай мовах. Гэтая ўнікальная імпрэза, арганізаваная польскім паэтам і старшынёй кракаўскага аддзялення Саюза польскіх пісьменнікаў Міхалам Заблоцкім і ягонай фундацыяй «Паэмат», доўжыцца з 2002 года.

Цяпер, у часы цяжкіх выпрабаванняў Украіны, арганізацыя праяўляе салідарнасць з суседкай. У акцыі могуць прыняць удзел і ўкраінскія аўтары. Для ўдзелу ў праекце




«Wiersze na murach» у Кракаве неабходна зарэгістравацца на сайце emultipoetry.eu і прапанаваць уласны кароткі паэтычны твор. Калі тэкст будзе ўхвалены, яго перакладуць на ангельскую і польскую мовы. Вершы, выбраныя арганізатарамі, будуць змешчаны ў аднайменным альманаху, у які ўвойдуць усе творы, апублікаваныя на працягу года.

## «Паэзія вольных»: вершы пра вайну

Міністэрства культуры і інфармацыйнай палітыкі Украіны сумесна з валанцёрамі запусціла партал «Паэзія вольных», які збірае вершы пра расійска-ўкраінскую вайну. Так ствараецца паэтычны летапіс баявых дзеянняў на тэрыторыі Украіны.

«Кожны ўкраінец можа падзяліцца сваімі творамі… Бо шмат каму трэба дзяліцца паэзіяй, адлюстроўваць боль праз змястоўныя радкі сваіх твораў», — гаворыцца ў заяве.

Каб падзяліцца сваёй паэзіяй, трэба запоўніць форму на сайце партала па спасылцы. Ужо цяпер кожны наведвальнік партала мае магчымасць праглядаць вершы і нават выбраць упадабаныя, націснуўшы «сэрца».

Паступіла ўжо каля 14 000 заявак на публікацыю вершаў. Уся паэзія напісана з пачатку поўнамаштабнага ўварвання Расіі ва Украіну. «Нягледзячы на жахі вайны, 80% напісанага — гэта аптымістычныя вершы, з верай у перамогу нашай дзяржавы», — сказаў міністр культуры і інфармацыйнай палітыкі Украіны Аляксандр Ткачэнка. Паэзія ўжо дасланая на сямі мовах. А над мадэрацыяй і рэдагаваннем працуюць 27 валанцёраў. Часцей за ўсё аўтары дасылаюць вершы з Кіева, Марыупаля, Валнавахі, Мікалаева, Адэсы, Чарнігава і Харкава.

Міністэрства культуры і інфармацыйнай палітыкі Украіны плануе ўкласці і выдаць зборнік вершаў, у які ўвойдуць творы найбольш таленавітых аўтараў, якія далучыліся да ініцыятывы.

## Фіналісты Міжнароднай Букераўскай прэміі 2022 года

Названыя шэсць раманаў, якія ўвайшлі ў шорт-ліст прэстыжнай Букераўскай літаратурнай прэміі. Усе творы паходзяць з розных краін, у спісе тры кантыненты. Пра гэта паведамляецца на сайце прэміі.

У шорт-ліст 2022 года ўвайшлі ранейшыя пераможцы Вольга Такарчук і Джэніфер Крофт, а таксама аўтары, якія ўпершыню перакладзены на англійскую мову. Шорт-ліст ахоплівае шэсць моў: карэйская, нарвежская, японская, іспанская, хіндзі і польская. Сярод аўтараў, перакладчыкаў і кніг:

«Heaven» Mieko Kawakami, пераклад Samuel Bett, David Boyd, выдавецтва Picador, Pan Macmillan;

«Elena Knows» Claudia Piñeiro, пераклад Frances Riddle, выдавецтва Charco Press;

«A New Name: Septology VI-VII» Jon Fosse, пераклад Damion Searls, выдавецтва Fitzcarraldo Editions;

«The Books of Jacob» Olga Tokarczuk, пераклад Jennifer Croft, выдавецтва Fitzcarraldo Editions;

«Tomb of Sand» Geetanjali Shree, пераклад Daisy Rockwell, выдавецтва Tilted Axis Press;

«Cursed Bunny» Bora Chung, пераклад Anton Hur, выдавецтва Honford Star.

«Надзвычай арыгінальныя літаратурныя творы, якія захопяць чытачоў, кнігі, якія ўвайшлі ў шорт-ліст гэтага года, даследуюць траўмы як асобы, так і грамадскасці», — адзначылі арганізатары прэміі.

Пераможца Букераўскай прэміі будзе абвешчаны 26 траўня 2022 года. Прызавы фонд складае 50 000 фунтаў стэрлінгаў, якія будуць падзелены пароўну паміж аўтарам і перакладчыкам.

Букераўская прэмія была заснаваная ў 1968 годзе. Да 2013 года гэтая ўзнагарода прысуджалася аўтару/аўтарцы, якія пражывалі ў адной з краін Брытанскай Садружнасці, Ірландыі ці Зімбабвэ. Аднак журы потым дазволіла пісьменнікам з іншых краін падаваць заяўкі на твор, выдадзены на англійскай мове і апублікаваны ў Вялікабрытаніі. У 2019 годзе гэтую ўзнагароду атрымала Вольга Такарчук. У 2020 годзе лаўрэатам Букераўскай прэміі стаў шатландска-амерыканскі пісьменнік Дуглас Сцюарт. У 2021 годзе Букераўскую прэмію атрымаў аўтар рамана «Уся кроў ноччу чорная» Дэвід Дзіоп.

## Стывен Кінг звярнуўся да Пуціна

Сусветна вядомы амерыканскі пісьменнік Стывен Кінг з першых дзён супрацьстаяння ва Украіне падтрымлівае ўкраінцаў і клапоціцца пра лёс Украіны. Таму ў сваім Twitter ён вырашыў звярнуцца да Пуціна.

На думку пісьменніка, кіраўніка РФ чакае толькі ганебная параза. Ён патлумачыў, чым скончыцца вайна з Украінай для прэзідэнта Расіі, калі ён неадкладна не выведзе войскі. «Працягвайце, Улад. Украіна спустошыць вашу казну і абяскровіць цябе», — напісаў пісьменнік.


Фота RexFeatures

## Модны Оруэл

Калінінградцы, як і большасць расійскіх рэгіёнаў, зацікавіліся раманам-антыўтопіяй Джорджа Оруэла «1984».

У самым заходнім рэгіёне Расіі назіраецца павышаны попыт да рамана. Яшчэ нядаўна ён пыліўся на паліцах кнігарняў без асаблівай увагі. А цяпер яго там не знайсці — разабралі. Падобная цяга да кнігі, ды яшчэ папяровай, безумоўна, ухвальная.

Да ўсяго, англійскага пісьменніка пачалі рэкламаваць калінінградскія аўтаамататары. На машыны яны мацуюцьналепку-цытату з песні «1984» расійскага рок-гурта «Louna»: «Тое, што Оруэл бачыў у сне, я бачу цяпер наяве». Праўда, іншамаркі і яшчэ цалкам сытыя твары іх гаспадароў уступаюць у пэўную супярэчнасць з падобнымі цытатамі…

## Чэхаўскі марафон у Францыі

У Тэатры-студыі парыжскага прадмесця Альфарвіль стартаваў чэхаўскі марафон. На працягу трох месяцаў будуць ісці 15 пастановак паводле п'ес класіка.

Перформанс арганізаваў рэжысёр Крысціян Бенэдэцці, які ставіць Чэхава ў Францыі больш за чатыры дзесяцігоддзі. «Такога "ўсяго Чэхава" ў Францыі, а можа, і ва ўсім свеце, ніколі не было. Для мяне чэхаўскі тэатр, верагодна, найлепшы ў свеце. Гэта абсалютны тэатр у яго найвышэйшай праяве. Ніхто да яго так не раскрываў чалавечую драму, якая разгортваецца на нашых вачах», — распавёў журналістам Крысціян Бенэдэцці.


Фота Global Look Press

## Літаратурныя «санкцыі»

Серыя раманаў пра Гары Потэра ангельскай пісьменніцы Джоан Роўлінг здымаецца з продажу ў Расіі ў лічбавай версіі. Рашэнне было прынята праваўладальнікам кніг.

У «ЛитРес» удакладнілі, што перамовы з праваўладальнікам усё яшчэ працягваюцца, а электронныя версіі серыі кніг здымаюцца з продажу ў Расіі на нявызначаны тэрмін.

Акрамя гэтага стала вядома, што амерыканскі пісьменнік, рэжысёр і сцэнарыст Стывен Кінг вырашыў не працягваць кантракты з расійскімі выдаўцамі. Пра адмову супрацоўнічаць з расійскімі выдавецтвамі публічна заявіў і амерыканскі дэтэктыўшчык Лінвуд Барклі.

Варта адзначыць, што Стывен Кінг надзвычай зарабляў на расійскім рынку: па дадзеных Кніжнай палаты РФ у мінулым годзе сумарны наклад яго кніг у Расіі склаў крыху менш за мільён асобнікаў.

## Забіць мужа паводле сваёй кнігі?

71-гадовая амерыканская пісьменніца Нэнсі Крэмптан-Брофі, аўтарка кнігі «Як забіць свайго мужа», знаходзіцца пад судом і абвінавачваецца ў забойстве 63-гадовага Дэніэла Брофі, які «падзяліў з ёй жыццё».

Пісьменніцу арыштавалі ў ЗША праз тры месяцы пасля смерці мужа. Дэніэла Брофі забілі раніцай на працы. Ён быў прафесарам Кулінарнага інстытута Арэгона і знаходзіўся адзін у навучальным класе, калі адбылося забойства. Пракуратура паведаміла, што мужчына быў двойчы паранены стрэламі з пісталета: у спіну, калі стаяў каля ракавіны, напаўняючы вядзерцы з лёдам, а другі — у грудзі з блізкай адлегласці. Кулі прабілі хрыбетнік і сэрца. У яго быў знойдзены кашалёк з наяўнымі грашыма і крэдытнымі карткамі, слядоў крадзяжу ці ўзлому ў кабінеце знойдзена не было.

Забойства заставалася загадкай на працягу некалькіх месяцаў, пакуль не была арыштаваная ягоная жонка. На кадрах з камер відэаназірання бачна, як машына Нэнсі праязджае па вуліцах каля інстытута прыкладна ў той час, калі быў забіты муж. Нягледзячы на недвухсэнсоўную назву яе кнігі, суддзя пастанавіў, што яе твор не можа быць выкарыстаны ў якасці доказу віны, паведамляе NBC News. Сама ж пісьменніца не прызнала сябе вінаватай. Прысуд ёй яшчэ не вынесены.